



# Рэгіянальная газета

18 студзеня 2013 года
№ 3 (925)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".


**Ці бяспечна акунацца на Вадохрышча?**

2-я старонка

**Снег на дарогах расчышчаюць нават ноччу.**

5-я старонка



## навіны рэгіёна

### Да 75-годдзя Мінскай вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Да гэтай даты прымеркаваны канцэрт, які адбудзецца 18 студзеня ў 12 гадзін дня ў Палацы культуры. Традыцыйна ў палацы будуць працаваць розныя музычныя пляцоўкі і выставы народных майстроў. За 15 хвілін да канцэрта пакажуць фільм пра Мінскую вобласць. Назавуць і трох Ганаровых грамадзян Мінскай вобласці.

### Падазронага ў забойстве знайшлі павешаным

**ВАЛОЖЫН.** У вёсцы Гарадзечна Валожынскага раёна 13 снежня знайшлі труп 79-гадовай пенсіянеркі. У забойстве жанчыны абгрунтавана падазраваўся 49-гадовы мясцовы жыхар, які быў абвешчаны ў вышук. Забойства адзінокай пенсіянеркі суседзі выявілі толькі на трэці дзень. Мужчына, які раней дапамагаў бабульцы па гаспадарцы, быў абвешчаны ў вышук, у тым ліку з прыцягненнем рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі. Аднак напярэдадні новага года яго цела было знойдзенае супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Валожынскага РАУС у закінутым хляве роднай вёскі.

**Аддзел інфармацыі.**



# Мароз наступае на пяты



Фота Ігара МАРОЗА.

**-11° С. Вілейка, Лазневае возера. Мінулая нядзеля. Галоўнае, каб нагам было цёпла.**

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Сіноптыкі прагназуюць на выхадныя да 20 градусаў марозу.**

Як паведамілі ў Вілейскай гідраметэастанцыі, 19-20 студзеня чакаецца ўзмацненне марозу. Днём тэмпература будзе 9-14 градусаў, а ноччу на паўднёвым захадзе можа дасягнуць 20.

### Пад'ешце перад выхадам на вуліцу

Хірург Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы **Мікалай Федарук** даў парады чытачам, як берагчы здароўе падчас маразоў:

– У маразы хавайце адкрытыя часткі цела: твар, рукі. Абавязкова насіце пальчаткі, шалікі. Трэба апранацца камфортна, таму што цеснае адзенне і абутак парушаюць кровазварот, што прыводзіць да больш хуткага абмаражэння.

Не выходзьце ў мароз на галодны страўнік. Калі доўга знаходзіцеся на вуліцы, грэйцеся: падскоквайце, размахвайце рукамі, рухайцеся.

Піце гарачыя напоі. Але ні ў якім выпадку не спіртныя! Лепш за ўсё – гарбату за паўгадзінкі да выхаду на вуліцу.

Снегам расціраццa нельга, таму што капіляры на марозе і так звужаюцца, а дадатковы холад прыносіць ім яшчэ большую шкоду. Да таго ж, ільдзінкі траўмуюць скуру.

Найбольш схільныя да абмаражэнняў дзеці: яны яшчэ не адаптаваныя да марозу, таму старайцеся абмяжоўваць час іх знаходжання на вуліцы.

### З-за чаго ў маразы ўзнікаюць пажары

Інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова** нагадала самыя распаўсюджаныя прычыны ўзнікнення пажараў падчас маразоў:

У час маразоў найчасцей пажары ўзнікаюць з-за таго, што людзям хочацца пагрэцца. У прыватных дамах галоўныя прычыны здарэнняў – перапал печаў і складанне дроў адразу каля вогнішча. А ў кватэрах гаспадары парушаюць правілы эксплуатацыі абагравальнікаў.

У неацяпляльных памяшканнях электрапрыборы спрабуюць разагрэць адкрытым полымем, напрыклад, ад паяльных лямпаў, з-за чаго тыя загараюцца.

Небяспечнай для жыцця ў маразы можа стаць рыбалка.

### Выратоўваюць гарачай гарбатай

Аб тым, як будуць дапамагаць людзям выратавальнікі, распавёў **Сяргей Гладкі**, намеснік начальніка па дзяржаўнай сістэме папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый і па грамадзянскай абароне Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях:

– Не такія тут ужо і моцныя маразы будуць. Усяго 20 градусаў! Але старшыня прапанаваў міліцыі і аддзелу гандлю паставіць палатку на вакзале, дзе ўсе ахвотныя змогуць папіць гарачай гарбаты. Што тычыцца леташніх халадоў, то памятаю, як мы ратавалі адных людзей. У іх прарвала трубаправод, тады якраз былі моцныя маразы.

### Каб не замерзлі аўтобусы

Аўтобусы абяцаюць не затрымліваць і не прымушаць людзей доўга стаяць на прыпынках у надвор'е з вялікім мінусам.

– У моцныя маразы рух аўтобусаў трохі ўскладняецца, – тлумачыць дырэктар Маладзечанскага аўтапарка **Яўстафій Каравай**. – На ноч мы будзем прызначаць па два адказныя дзяжурныя. Яны будуць прагравацъ гаражы і аўтобусы, каб нашым пасажырам не холадна было ездзіць. А ўжо ад пяці гадзін раніцы аўтобусы будуць аглядаць з тэхнічнага боку, каб яны не заглухлі ў дарозе.

### Міліцыя будзе дапамагаць

На пытанне, ці гатовая міліцыя да маразоў, адказвае намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай працы і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Балкоўскі**

– Мы заўсёды гатовыя. І няма розніцы: мароз, галалёд ці снегапад. Кожны год складаецца план "Надвор'е", у якім прызначаюцца ў пэўны час пэўныя адказныя за працу. Мы назіраем за дарогамі, дапамагаем камунальным службам і ўсім тым, каму патрэбная дапамога на дарозе. Падчас моцных маразоў на ўзбочынах па розных прычынах стаяць машыны, тады мы пад'язджаем, высвятляем, чаму, і дапамагаем. Але, як правіла, больш працы з маразамі не становіцца.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**

ЗДАРОЎЕ

# Ці бяспечна акунацца на Вадохрышча?

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. 19 студзеня – Вадохрышча. У гэты дзень многія вернікі спяшаюцца да палонак, каб акунуцца ў ваду, якая лічыцца гаючай. Вада, якая дае здароўе і ачышчае ад грахоў.**


Фота забяспечана Людмілай ЦІХАНОВІЧ.

**У даманоўскай крыніцы акунаецца Вольга Селянкова, настаўніца пачатковых класаў вілейскай школы-інтэрната.**

## Думка дактароў

Менавіта напярэдадні Вадохрышча дактары б'юць трывогу: занадта шмат існуе супрацьпаказанняў для акунання. Усе медыкі, з якімі нам давялося пагутарыць, у адзін голас заяўляюць, што акунацца ў сцюдзёную ваду могуць толькі абсалютна здаровыя людзі! Небяспечна акунацца людзям з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы, з захворваннямі страўніка, тым, у каго высокі ціск, і ўвогуле людзям з любымі хранічнымі захворваннямі.

**– А дзецям можна акунацца?**

– Узроставых абмежаванняў няма. Дзецям, як і непадрыхтаваным дарослым, працяглы ўплыў халоднай вады супрацьпаказаны. Але калі гэта хуткае акунанне, а пасля гэтага адразу цёпла апрануцца, то для здаровага дзіцяці будзе толькі карысць, – гаворыць доктар-нутрыцыёлаг (нутрыцыялогія – навука аб харчаванні) **Ірына Лях**.

**– А якія яшчэ парады вы можаце даць пачынаючым нырцам?**

– Абавязкова перад заходам у ваду трэба разагрэцца. Расцерціся сухім ручніком, зрабіць некалькі фізічных практыкаванняў: падскокі, узмахі рукамі і нагамі, некалькі прысяданняў. Пасля акунання пераапрануцца ў цёплае сухое адзенне.

## Ад вады не абмарожваліся

**– А вы як ставіцеся да акунанняў?** – пытаемся ў хірурга **Мікалая Федарука**.

– Добра стаўлюся, хоць сам і не практыкую акунанні. Прынамсі, на маёй практыцы не было ніводнага выпадку, каб пасля Вадохрышча каго прывозілі з абмаражэннямі.

## Думка святара

Па каментар наконт цудадзейнага дзеяння вады на чалавека на Вадохрышча мы звярнуліся да дабрачыннага царкваў Маладзечанскага раёна протаіерэя **Віталя Багданёнка.**

– Акунанне ў купель – гэта не царкоўны статут, гэта набожная традыцыя. Самае галоўнае, калі вы вырашылі акунуцца, мець сапраўдную веру і моцнае здароўе. У Святым пісанні напісана: "Не нашкодзь!"

На самой справе, калі ў чалавека слабое сэрца, якая карысць можа быць ад акунання? Толькі шкода!

Ні ў якім разе нельга акунацца чалавеку, разагрэтаму спіртнымі напоямі. Такія акунанні царква асуджае, яны не прыносяць карысці.

**– А як правільна акунацца ў купель?**

– Абавязкова з малітвай, хаця б кароценькай, і абавязкова тройчы. Калі выйдзеце з вады, таксама думайце пра тое, што вада дапаможа пазбавіцца ад хваробы. Паўтаруся, акунацца трэба толькі з вялікай верай. Усім людзям, незалежна ад таго, будуць яны акунацца ці не, я жадаю моцы духу і сілы цела.

## Супрацоўнікі МНС за акунанне

Ведаючы, што там, дзе ёсць вада, лёд і вялікая колькасць людзей, можа ўзнікнуць небяспека для здароўя, мы звярнуліся ў МНС з такім пытаннем: ці былі ў вашай практыцы выпадкі, што прыходзілася вызваляць людзей з палонкак менавіта на Вадохрышча?

Адказвае інспектар групы прапаганды і навучання гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях Маладзечанскага раёна **Марына Ермакова**:

– Не, на сваёй практыцы я такога не памятаю. Гады два таму 19 студзеня прарвала дамбу на Вілейскім вадасховішчы, а так, каб нешта адбывалася на Вадохрышча, не ўспомню.

**– А вы бываеце, дзяжурыце каля палонак?**

– Пяты год запар я знаходжуся ў месцах, абсталяваных для акунання, але не для таго, каб дзяжурыць, а для таго, каб самой прымаць абрад ачышчэння.

**– Няўжо акунаецеся?**

– Так, і многія мае калегі таксама штогод прыязджаюць акунацца ў гаючую ваду.

**– Скажыце, а вы неяк рыхтаваліся да акунання?**

– Толькі кантрасны душ. Вельмі дапамагае.

**– Не страшна?**

– Не, я ж раблю гэта з верай. Гэта галоўнае, я лічу.

**– А як уражанні пасля акунання?**

– Заўсёды з вады выходжу аднёўленай, памаладзелай. І ўвогуле з такім пачуццём шчасця, што гэтай энергіі хапае на год.

## Замест парашута – у палонку

Настаўнікі вілейскай школы-інтэрната таксама аматары акунуцца на Вадохрышча.

– Акунаюся ўжо тры гады запар, – распавядае **Сяргей Клімёнак.** — Першы раз паехаў з сябрамі, але рэчы ўсе ўзяў з сабой. Пакуль стаяў у чарзе, бачыў, што нават дзеці акунаюцца, і рашыўся, хаця вады халоднай вельмі баюся. Акунуўся і адчуў такую асалоду, што цяпер штогод на Вадохрышча езджу акунацца. Больш за тое, і дзяцей сваіх таксама бяру з сабой.

**– Што адчуваеце пасля акунання?**

– Ведаю толькі адно, вада на Вадохрышча нават у палонцы быццам ванна з парай. Акунуўшыся, адчуваеш цяпло, але не як ад гарачай ванны, а быццам нейкае іншае. Калі ў вас няма сур'ёзных медыцынскіх супрацьпаказанняў, вельмі раю акунацца. Гэта непаўторныя ўражанні!

Яго падтрымлівае кіроўца **Сяргей Богураў**:

– Спачатку была цікавасць. Вельмі хацеў скокнуць з парашутам, але гэта вельмі дорага. А акунацца – задарма. У гэтым годзе будзе трэці раз. Уражанні – выдатныя.

**– А што вы можаце параіць таму, хто ні разу не акунаўся?**

– А вы прыязджайце самі і ўсё пабачыце на свае вочы. Там (я акунаюся ў Даманове) такая душэўная атмасфера! Нягледзячы на вялікія чэргі, людзі ставяцца прыязна. Пасля акунання адзін аднаго віншуюць. Прыязджаюць цэлымі сем'ямі. Абавязкова прыязджайце, калі не акунуцца, то адчуць атмасферу, паглядзець, парадавацца.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што калі вы абсалютна здаровы чалавек і адчуваеце патрэбу ў акунанні – акунайцеся! У іншых выпадках, калі баіцеся марозу ці вады, дастаткова проста памыцца Вадохрышчанскай гаючай вадой. Карысці гэта прынясе не меней. Здароўя вам, паважаныя чытачы!

**Наталля ТУР.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ У МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці гатовыя вы да маразоў?



**Аляксей Аніскевіч, інжынер-праграміст:**

– Ніяк не рыхтаваўся, але падрыхтаваны! Буду піць часцей гарачы чай. Пабольш буду дома. Тым больш, што ўжо хвараю, вось набыў фруктаў, каб назапасіцца вітамінамі.



**Крысціна Абрамян, вучаніца:**

– Мне не холадна на вуліцы. Нават люблю зіму, калі яна не зацягваецца. А вось у нашай школе №8 – холадна.



**Міхаіл Белакапытаў, гандляр:**

– Трэба набываць валёнкі, на рынку ў нас прадаюць. Маразы будуць недзе да канца сакавіка, кажуць. Але я не буду ад іх уцякаць – наадварот, неабходна быць на вуліцы, каб дыхаць свежым паветрам.



**Юлія Зянько, студэнтка:**

– Так, але не вельмі хочацца, каб яны надышлі. На вуліцу буду выходзіць толькі па тэрміновых справах, а дома – каля батарэі, плед, гарачы чай. Вельмі добрая ідэя – частаваць гарачым чаем у палатках у цэнтры горада. Можна іх нават некалькі арганізаваць.



**Ганна Канурэнка, бібліятэкарка:**

– У маразы ўсё будзе як звычайна, яны мне не перашкода. Я люблю зіму, праўда, мяккую, як на пачатку тыдня. Люблю катацца на каньках, хаджу ў Лядовы палац.



**Яўген Чарніцкі, навучэнец:**

– Так, усё нармальна. Зіма нават падабаецца. На вуліцы вечарам і ноччу ціха, ніхто не ходзіць. Вельмі прыгожа, калі снег на дрэвах ляжыць.



**Анатоль Клімовіч, пенсіянер:**

– Дык маразоў не будзе моцных. Мінус 17, не болей. Можа, толькі ў Віцебскай вобласці будуць, а ў нас жа захад. 64 гады пражыў, перажыву і маразы.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

БІБЛІЯТЭКА

# У чарзе за кнігай – 46 чалавек



Фота photosight.ru.

Маладзечанцы і віляйчане чытаюць пра адзіноту і пра тое, як выйсці з гэтага стану.

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтральная бібліятэка імя Максіма Багдановіча назвала імёны самых зацікаўленых чытачоў, самую папулярную кнігу і самую сталую чытачку.**

Самая папулярная кніга 2012 года – жаночы раман "Імгненне бясконцасці" беларускай пісьменніцы **Наталлі Батраковай**. Восенню ў бібліятэцы з'явіліся чатыры экзэмпляры гэтай кнігі. У чарзе па яе ўжо стаіць 46 чалавек.

Між іншым, у бібліятэцы больш за 13 тысяч чытачоў.

**З іх 40 працэнтаў – моладзь, яшчэ 40 працэнтаў – жыхары, якім ад 30 да 50 гадоў і 20 працэнтаў – пенсіянеры. Дарэчы, апошнія самыя актыўныя.**

Але калі я папрасіла супрацоўніцу бібліятэкі агучыць найлепшых, яна думала нядоўга.

### Што чытаюць

– Ёсць у бібліятэцы чытач выключна дэтэктываў, гэта пенсіянер **Аляксандр Макураў**, – кажа супрацоўніца бібліятэкі **Раіса Давідовіч**. – Ён у нас вельмі часты госць. Мастацкай сур'ёзнай літаратурай цікавіцца пенсіянерка **Ларыса Кастусік**. Гісторыяй – настаўнікі **Аляксандр Давідовіч** і **Дзяніс Курэц**.

Ёсць і ахвотныя пачытаць літаратурна-мастацкія часопісы. Самыя актыўныя з іх – пенсіянер **Аляксандр Аляшкевіч** і намеснік дырэктара аднаго з маладзечанскіх прадпрыемстваў **Валерый Хвораў**. Таксама часопісамі цікавіцца пенсіянер **Алег Шчукін**, ён адзін з самых сталых чытачоў бібліятэкі.

Дарэчы, самая сталая чытачка – **Галіна Шароніна**. Яна цікавіцца літаратурай розных жанраў. А сярод актыўных маладых чытачоў – следчы **Сяргей Шчэрба** і настаўніца **Юлія Стаўбунік**.

– У апошні час усё больш папулярным жанрам сярод чытачоў становіцца фэнтэзі, – працягвае спадарыня Раіса. – У нас таксама з'явіўся аматар гэтага жанру – інжынер **Аляксандр Луцкі**.

Як і ва ўсе гады, ёсць нязменныя прыхільнікі раманаў. Сёлета бібліятэка адзначыла сярод іх доктара **Любоў Лыско**, бухгалтарку **Марыну Туровіч** і пенсіянерку **Наталлю Гойдзіну**.

У беларускай літаратуры таксама ёсць свае прыхільнікі – выкладчыца **Вера Дворак** і пенсіянерка **Таццяна Дземідовіч**.

– Некаторыя толькі заходзяць у бібліятэчную залу і адразу ідуць да стэлажа з навінкамі элітарнай літаратуры, – распавядае спадарыня Раіса. – Тут стаяць кнігі японскага сучаснага пісьменніка **Харукі Муракамі**, рускага пісьменніка-празаіка **Віктара Пялевіна**, французскай пісьменніцы **Ганны Гавальды** і іншых. Сярод аматараў такой літаратуры акцёр **Міхаіл Асановіч** і пенсіянерка **Галіна Дэма**.

### У чытальнай зале

Тут ужо іншая літаратура, іншыя чытачы і іншыя імёны.

Абсалютнае першынство ў пенсіянера **Пятра Мамая**. Ён чытае самыя розныя навукова-папулярныя часопісы: "ГЕО", "Вокруг света" і іншыя.

Таксама ў лідарах пенсіянеры **Надзея Калініна**, **Наталля Гойдзіна** і **Вадзім Анціпаў**.

Сярод газет першае месца займае "Комсомолка", потым ідуць "Маладзечанская газета", "Рэгіянальная газета" і "Прессбол".

Наогул, у бібліятэцы каля 70 часопісаў і 30 газет.

### Праекты 2013 года

Сёлета ў бібліятэцы пройдуць сустрэчы з выдавецтвамі. Свае кнігі будуць прэзентаваць "Чатыры чвэрці", "Рэгістр" і "Кнігазбор".

**Настасся РОЎДА.**

## Хіт-парад самых чытаных кніг

**ВІЛЕЙКА. У гарадской бібліятэцы, філіял №1, у снежні два тыдні апытвалі наведнікаў, каб высветліць, якія прачытаныя кнігі аказалі найбольшае ўражанне ў 2012 годзе.**

Удзел у апытанні прынялі 340 чытачоў. У выніку склалі "Хіт-парад прачытаных кніг", аб выніках якога распавяла бібліятэкар **Яніна Гуліцкая**.

У гэты спіс увайшлі наступныя кнігі:

- Наталля Батракова "Імгненне бясконцасці",
- Марыя Воранава "Доктарская сага",
- Элізабет Гілберт "Есці, кахаць, маліцца",
- Януш Вішнеўскі "Адзінота ў сетцы",
- Габрыэль Гарсія Маркес "Сто год адзіноты",
- Дзіна Рубіна "Гладзь возера",
- Людміла Уліцкая "Зялёны шацёр",
- Кацярына Вільмонт "Артыстка, блін",
- серыя кніг "S.T.A.L.K.E.R",
- Раман Злотнікаў "Цыкл "Грон",
- Маша Трауб "Ластаўка",
- Арундаці Рой "Шаль",
- Марына Сцяпнова "Жанчыны Лазара",
- Уладзімір Колычаў "Пацаны",
- Барыс Акунін (Бруснікін) "Герой іншага часу".

Гэты спіс вывешаны на інфармацыйным стэндзе ў фае бібліятэкі, каб людзі з дапамагай меркаванняў іншых чытачоў маглі адкрыць для сябе добрую кнігу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт





Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### Што падаражэла пасля Новага года

Курсы валют: EUR 11230, USD 8630, RUB 284. Хто адказа, ці ёсць рэальная магчымасць утрымаць вось гэты курс пасля такіх падаражэнняў? *Алесь Раткевіч.*

### З-за звычайных таблетак можна патрапіць у міліцыю

А выкінуць іх не прасцей, чым ісці ў міліцыю і г.д – калі па праўдзе, гэта ідыятызмам пахне. *Дэн.*

Прасцей, вядома. І бамжам прасцей іх там знайсці, і прадаць камусьці як кіслату. *Ажына.*

### Святлана і Рыгор Сарокі: "Сям'я без кахання – гэта амаральна"

Маладзечна – горад незвычайны на ўсёй Беларусі – радзіма знакамітых і таленавітых оперных спевакоў – ад Забэйды Суміцкага да Пралатаў (яна у Мадрыдскай оперы, ён у Пражскай) і Аляксандровіча з Санкт-Пецярбурга. Праект на песні Мусліма Магамаева і Маладзечанскага сімфанічнага аркестра Рыгора Сарокі ў лістападзе 2012 – цудоўны, але не было ніводнага твору на роднай мове. Ці можа так здарыцца, што нашы знакамітасці (адзін з трох вышэй азначаных), калі раптам завітаюць у Маладзечна, выканаюць хоць адзін твор на роднай мове, пад суправаджэнне тутэйшага сімфанічнага аркестра, ці гатоў да гэтага Рыгор Сарока? *Адась.*

Як жа пара такіх таленавітых і творчых людзей упрыгожвае наш горад і дае яму творчае жыццё. *Ляля.*

### Эва Астроўская: пісьменніца, якая не баялася жыцця

Хто не баіцца паміраць, той не баіцца і жыць, і толькі той сапраўды жыве. Цудоўная жанчына. *Аляксей.*

### Незвычайныя спосабы прадоўжыць жыццё

Не, даражэнькія, паблыталі вы нешта. Жаніцьба не дадае сем гадоў, а адбірае! Бо як ажэнішся, то і парадку ніколі няма, і ўзровень шуму пераходзіць у крык, і пастава "плечы ў жывот", і недасыпанне, а ў выніку і развод! Так што маеш "-12"!!! *Юрась.*



Фота mamba.ru

# Сын збіў маці-інваліда

## Толькі праз два дні яна выйшла на вуліцу

**ВІЛЕЙКА. Цяпер 45-гадоваму мужчыну суд вынес прыгавор.**

Усё адбылося вечарам 29 ліпеня. Сын вярнуўся з работы дамоў, дзе жыве ўдваіх з 73-гадовай маці, нецвярозым і запатрабаваў ад жанчыны вячэру. Раптам яму падалося, што маці вельмі марудна накрывае на стол. Ён пачаў крычаць на яе. Жанчына штосьці адказала, і тады сын падхапіўся і ўдарыў кулаком два разы ў твар. З носа ў яе пайшла кроў.

Жанчына мае другую ступень інваліднасці з-за хваробы суставаў. Ёй складана хадзіць ці рабіць нейкую фізічную працу. Нават нажом парэзаць хлеб – праблема. Таму яна не магла ні супраціўляцца, ні ўцячы. Жанчына проста накіравалася да дзвярэй, каб выйсці з дому.

Калі яна ўжо была на верандзе, сын дагнаў, ударыў ззаду ў спіну тры разы і загарадзіў выхад.

Маці вярнулася ў пакой, там сын піхнуў яе ззаду, і жанчына паваліласяна падлогу тварам уніз у метры ад ложка. Сын пачаў збіваць яе нагамі і драўлянай ручкай матыкі па галаве, целе, руках і нагах.

Жанчына не магла падняцца, яна марудна папаўзла пад ложак. Калі запаўзла, сын ужо не мог яе дастаць. Супакоіўся і пайшоў спаць.

Праз 15 хвілін жанчына пачула, што сын спіць, і вылезла. Праз два дні яна выйшла на вуліцу і папрасіла суседзяў выклікаць "хуткую дапамогу". Яе паклалі ў бальніцу.

Эксперты-псіхіятры вызначылі, што сын быў не ў сабе, калі збіваў маці. З-за злоўжывання алкаголем ён мае расстройства псіхікі.

Суд прызначыў абвінавачанаму два гады пазбаўлення волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Таксама яго будуць прымусова лячыць ад расстройства псіхікі. За ім будзе назіраць доктар-псіхіятр.

Мужчыну будуць лячыць і ад хранічнага алкагалізму.

**Віктар ГАТОЎКА, памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

МЯЖА

# Кантрабандысты пераапрануліся ў святароў

**АСТРАВЕЦ. Два грамадзяніны Польшчы, пераапрануўшыся ў вопратку ксяндзоў, спрабавалі ў чацвер перавезці праз беларуска-літоўскую мяжу партыю цыгарэт на 44 тысячы літаў (больш за 12 тысяч еўра), паведамляе літоўская мытня.**



Фота cust.lt

**Машыну для падтрымкі вобразу абклеілі налепкамі дабрачыннай арганізацыі.**

Яны затрыманыя на пераходзе Катлоўка-Лаварышкі.

Літоўскія мытнікі ў памежным пункце пропуску "Лаварышкі" ("Лаварышкі – Катлоўка") прыпынілі рух пікапа "FSO Polonez Truck", у якім перамяшчаліся "святары". Пераапрануўшыся, кантрабандысты спадзяваліся пазбегнуць праверкі.

Аўтамабіль быў абклеены налепкамі дабрачыннай арганізацыі "Карытас". Мужчыны сцвярджалі, што не вязуць нічога забароненага. Аднак на даглядзе ў кузаве машыны мытнікі знайшлі падвойнае дно.

У тайніку было схавана 6408 пачкаў беларускіх цыгарэт "Прэм'ер". Акрамя таго, аказалася, што мужчыны не з'яўляюцца прадстаўнікамі духавенства і апранулі расы, каб пазбегнуць увагі з боку мытні.

У дачыненні да польскіх грамадзян распачата крымінальная справа. Парушальнікі змешчаныя ў ізалятар.

**Аддзел інфармацыі паводле www.cust.lt.**

# На мяжы знайшлі какаін

**АШМЯНЫ. На легкавы аўтамабіль "Фольксваген", які 12 студзеня стаяў на мяжы ў пункце пропуску "Каменны Лог", зрэагаваў службовы сабака.**

Супрацоўнікі органаў памежнай службы вывелі машыну з агульнага патоку. У яе салоне на панэлі прыбораў знайшлі скрутак з наркотыкам, які важыў каля 150 грамаў. Ён знаходзіўся ў трайной упакоўцы, якая была пераматаная скотчам.

Аднак кіроўца сказаў, што наркотык не яго, а належыць знаёмым, якія ездзілі на гэтай машыне.

Аўтамабіль пакінулі на Ашмянскай мытні. Наркотык канфіскавалі для правядзення экспертызы. Аказалася, што гэта какаін (203,55 грама).

Цяпер супрацоўнікі Ашмянскай мытні і Ашмянскага РАУС узбудзілі крымінальную справу у адносінах да кіроўцы.

СЛУЖБА 101

# У пажары загінуў пенсіянер

**СМАРГОНЬ. У нядзелю, 13 студзеня, каля 21.30 на вуліцы Савецкай загарэўся жылы дом.**

Суседка заўважыла, што з вокнаў дома ідзе чорны дым і выклікала выратавальнікаў.

Калі яны прыехалі, у доме было моцнае задымленне, гарэлі рэчы, што знаходзіліся ўнутры. На канапе знайшлі труп 61-гадовага гаспадара дома.

З-за пажару часткова пашкоджаныя сцены, столевае перакрыццё і канапа.

Сам дом драўляны, дах у яго шыферны. Будынак электрыфікаваны.

Прычыны і абставіны пажару высвятляюцца.

Пра здарэнне паведаміла інспектар прапаганды і навучання Смаргонскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Надзея Гіль.**

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота забяспечана Надзеяй Гіль.

**Полымя пашкодзіла сцены і рэчы.**

# Мытнікі канфіскавалі больш за 1000 пачкаў цыгарэт

**АСТРАВЕЦ. У пункце пропуску "Катлоўка" Астравецкага раёна 12 студзеня памежны нарадам са службовым сабакам знайшоў у аўтамабілі, які рухаўся з Беларусі ў Літву, 1107 пачкаў цыгарэт.**

Яны былі схаваныя паўсюль: у задніх крылах, у парогах, у пярэдніх ланжэронах, за пярэднімі крыламі.

Яны былі ў асартыменце і з акцызнымі маркамі Беларусі.

Папярэдняя сума ацэнкі цыгарэт – 3 мільёны 853 тысячы рублёў.

Папярэдняя сума ацэнкі аўтамабіля – 25 мільёнаў рублёў.

Да рашэння суда цыгарэты і машына канфіскаваныя супрацоўнікамі Ашмянскай мытні.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**

ВЫШУК

# Шукаюць відавочцаў аварый

**МАЛАДЗЕЧНА. Следчы камітэт шукае сведкаў.**

### "Фольксваген-Пасат"

Аварыя здарылася 2 студзеня каля 20.00.

Чырвоны універсал "Фольксваген-Пасат" (рэгістрацыйны нумар 5644 АЕ-5) ехаў па дарозе Мінск-Нарач і каля скрыжавання з вуліцай 3 Ліпеня ў Радашкавічах збіў жанчыну, якая пераходзіла дарогу па праезнай частцы.

Ад атрыманых траўмаў жанчына загінула на месцы.

### "Фіят-Дуката"

Аварыя здарылася 23 снежня каля дзевяці гадзін вечара.

Пасажырскі мікрааўтобус цёмна-сіняга колеру "Фіят-Дуката" ехаў па вуліцы Віленскай у бок вуліцы Валынца і на скрыжаванні каля рэстарана "Еўропа", на пешаходным пераходзе, збіў чалавека.

**Пераканаўча просім відавочцаў патэлефанаваць па нумарах 8-033-669-32-48 альбо 77-10-25 следчаму Максіму Дзмітрыевічу Буткевічу (з 9.00 да 18.00 з панядзелка па пятніцу).**

**Пётр ВАРАЧКОЎ, начальнік Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# За дарогамі сочаць і ноччу



Фота http://www.belarus.by.

Дарожныя рабочыя на спецмашынах расчышчаюць снег, каб усе маглі трапіць на працу.

**МАЛАДЗЕЧНА. Зімой дарожныя рабочыя прачынаюцца адны з самых першых, каб паспець пачысціць дарогі, па якіх усе астатнія паедуць раніцай на працу.**

Ноччу ў дарожнай рамонтна-будаўнічай установе сядзіць дзяжурны, які сочыць за тэмпературай і асадкамі. Калі паводле паказчыкаў надвор'я дарогі неабходна чысціць, тэлефануе работнікам і выклікае іх на працу.

– Заўсёды ёсць дзяжурны кіроўца, які ведае, што пасярод ночы яго могуць разбудзіць і пасадзіць за руль, – кажа дырэктар ДРБУ–195 **Аляксандр Пускоў**.

Нават калі няма снегу, вецер можа нанесці яго на дарогу з палёў. Тады дарожнікам падказваюць, дзе неабходна іх дапамога – дыспетчары аўтавакзала, аўтааматары. Кіроўцы першых рэйсаў адразу паведамляюць, дзе шмат снегу, і, калі вяртаюцца, заўважаюць, што дарогу ўжо пачысцілі.

### Што зроблена, што зробяць

У Радашкавічах летась усталявалі адзін аўтапавільён (пляцоўка для прыпынку аўтобуса, для высадкі пасажыраў і сам павільён), а таксама два аўтобусныя прыпынкі. Усталявалі аўтобусны прыпынак і каля Відзеўшчыны.

Арганізацыя выканала бягучы рамонт вуліцы ў вёсцы Мясата, а сёлета зробіць рамонт вуліцы ў вёсцы Дамашы.

Зрабілі павярхоўную апрацоўку на аўтадарогах Маладзечна-Ілья і Маладзечна-Хажова-Ермакі на ўчастку ад Мойсічаў да Хажова.

Сёлета ДРБУ–195 прадоўжыць апрацоўку гэтых дарог. Запланаваны рамонт асфальтабетоннага пакрыцця на пад'ездзе да цагельнага завода ў Радашкавічах. Наогул міжрамонтны тэрмін для асфальтабетоннага пакрыцця – каля васьмі гадоў.

Участак дарогі ад Краснага да Белева таксама плануюць зрабіць.

ДРБУ займаецца і абслугоўваннем стану дарог. Па меры неабходнасці праводзяць ямачны рамонт, уборку смецця, усталяванне збітых знакаў, абкошванне.

**1 мільён 700 кубоў снегу расчысцілі работнікі ДРБУ-195 падчас двух вялікіх снежанскіх снегападаў: у раёне каля 800 кіламетраў дарог плюс 170 кіламетраў вуліц Маладзечанскага раёна, шырыня пакрыцця – шэсць метраў. На ачыстку і пасыпку пясчана-салявой сумессю выязджае каля 13 адзінак тэхнікі, а ўсяго іх 19.**

### Смецце

Дарожнікі прыбіраюць смецце на прыпынках і паміж населенымі пунктамі.

– Шмат сродкаў выдаткоўваецца на ўборку смецця ўздоўж дарог, асабліва пасля зімы, – гаворыць Аляксандр Пускоў. – Вясной работнікі выходзяць на суботнікі і ўздоўж дарог усё гэта прыбіраюць, хаця такога можна было б пазбегнуць.

Дарожнікі лічаць, што ўздоўж дарог хапае смеццевых кантэйнераў, а на прыпынках – невялікіх сметніц. Напрыклад, для таго, каб выкінуць упакоўку ад марожанага ці недапалак.

– Але ў гэтыя урны вывозяць на машынах пакеты бытавога смецця, – працягвае Аляксандр Пускоў. – Сметніца адразу поўная, а потым іншыя ставяць свае пакеты каля урны. Тэрыторыя набывае вельмі непрывабны выгляд. Смецце ж мы потым мусім прыбіраць.

– Стыхійныя звалкі ўтвараюцца менавіта каля садаводчых таварыстваў. Смецце з'яўляецца пераважна вечарам у нядзелю, калі людзі выязджаюць з лецішчаў, – распавядае Аляксандр Пускоў. – У іх не заўсёды ёсць кантэйнеры, таму смецце нясуць да бліжэйшага прыпынку.

За гэта прадугледжаны штрафы самім дарожным арганізацыям ад санэпідстанцыі за несвоечасовую ўборку. Прыпынкі прыбіраюць прыкладна раз на месяц, і гэтага дастаткова, калі імі карыстаюцца так, як прадугледжана.

– Гэта ж грошы, якія можна было б укласці ў ямачны рамонт, а не траціць на смецце, – тлумачыць галоўны інжынер **Яўген Адашкевіч**.

Зоя ХРУЦКАЯ,
Настасся РОЎДА.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ У МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як можна палепшыць стан дарог?



**Юры Іваноў, станочнік:**

– Вядома, па-першае, іх трэба чысціць. Часамі і пасыпаць трэба. Але з-за солі ржавеюць машыны.



**Ірына Несцярэнка, кантралёр медыцынскага абсталявання:**

– Дарогу трэба пяском пасыпаць. На мой погляд, гэта памяншае колькасць аўтамабільных аварый. Бо пасыпаная дарога скарачае шлях тармажэння машыны.



**Аляксандар Ліцюк, пенсіянер:**

– Мне здаецца, што ў нашым горадзе нармальныя дарогі. А вось у вёсках дык увогуле ні праехаць ні прайсці. Там і трэба паляпшаць якасць дарог.



**Таіса Калатоўская, аператар:**

– На дарогах шмат ям. Трэба своечасова рабіць рамонт. Тады і камунальнікам будзе лягчэй. А то давядуць дарогу да дрэннага стану, а потым зрабіць не могуць.



**Аляксандар Боган, электраманцёр:**

Я лічу, што дарогі добрыя. Толькі ў зімовы перыяд трэба іх своечасова чысціць і пасыпаць, каб не было траўматызму.



**Ксенія Бондар, музычны кіраўнік:**

– Пасыпаць рэагентамі трэба. У Германіі вось пасыпаюць – і нідзе ніякіх ямінаў ці слізкіх дарог. Безумоўна, рэагенты – гэта добра толькі для аўтамабіляў, а абутак яны вельмі раз'ядаюць.



**Аляксей Валасковіч, будаўнік:**

– Я думаю, што нашы дарогі разбіваюць вялікія фуры, на якіх ездзяць дальнабойшчыкі. Таму дарога не можа гэтага вытрымаць.

Падрыхтавалі Ганна ШАКЕЛЬ,
Вольга ЮРКЕВІЧ.

ТРАНСПАРТ

# На цягнік спазнілася, маршрутка зламалася, а аўтобус не прыйшоў

**Раніца 5 студзеня ў мяне не выдалася. Мне трэба было ехаць у Мінск, але спазнілася на электрычку, прычым дзверы зачыніліся перад носам.**

Настрою ніякага, жаданне ехаць куды-небудзь ужо знікла, але выбару не было. Я вырашыла пайсці на маршрутку, маўляў, хутка і камфортна заеду, хоць і нашмат даражэй. Па маіх разліках я павінна была прыбыць нават раней, чым на цягніку, але і тут я прамахнулася.

Не праехаўшы і паўдарогі, маршрутнае таксі зламалася. Я не на жарт разнервавалася і ўжо не спадзявалася патрапіць на важную сустрэчу. Але тут (трэба аддаць належнае супрацоўнікам аўтапарка) за намі прыехала яшчэ адна маршрутка і шчасліва давезла да Мінска.

Вырашыўшы ўсе свае справы, у добрым настроі вяртаюся ў Маладзечна. Жыву я на Лясных, звычайна хаджу пешшу, але не ў гэты дзень: стамілася вельмі, ды і надвор'е дрэннае было, ішоў мокры снег.

І вось самая крыўдная сітуацыя: ты прыходзіш на прыпынак, глядзіш расклад і цешышся: аўтобус павінен быць праз 5 хвілін. Мае пяць хвілін доўжыліся... паўтары гадзіны. Калі цярпенне лопнула, я пайшла пешшу. Стомленая і мокрая, дабралася дадому позна ўвечары, а "сямёрку" на шляху так і не сустрэла...

Настасся СКРЫЦКАЯ,
школа журналістыкі
"Маладзік".

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Чаму спазняецца транспарт?

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі маршрутка ламаецца падчас шляху, то кіроўца аператыўна звязваецца з дырэктарам фірмы, адкуль на падмогу выязджае яшчэ адна маршрутка, каб давезці пасажыраў.**

– Гэта рэдкі выпадак, што ў нас ламаецца маршруткі. Але заўсёды ў найкарацейшыя тэрміны праблема вырашаецца. Дакладна сказаць, з-за чаго яны ламаюцца, я не магу, гэта больш ужо тэхнічныя пытанні, – расказвае начальнік Маладзечанскага аўтавакзала **Людміла Бастынец**.

– Што тычыцца гарадскіх аўтобусаў, то спазніцца ён можа па розных прычынах. Напрыклад, аўтобус №6 можа спазніцца з-за таго, што доўга прастаіць на чыгуначным пераездзе, – кажа дырэктар аўтапарка **Яўстафій Каравай**. – "Сямёрка" таксама можа спазніцца з-за чыгуначнага пераезда, але не на такі вялікі прамежак часу, як "шасцёрка".

Калі выпадае шмат снегу, то некаторыя аўтобусы з-за дарожных умоў могуць спазніцца на хвілін 15.

Вольга ЮРКЕВІЧ.

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# На Міншчыне пабудуюць 10 заводаў “Амкадор”




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Узор прадукцыі “Амкадора”.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Абсталяванне – адно з найсучасных.

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра гэта паведаміў старшыня савета дырэктараў ААТ “Амкадор – кіруючая кампанія холдынгу” Аляксандр Шакуцін на адкрыцці механазагатоўчага цэха ў Маладзечне.**

Адкрыццё новага цэха прадпрыемства “Амкадор-Унікаб” адбылося ў пятніцу, 11 студзеня. Чырвоную стужку перарэзаў старшыня Мінаблвыканкама **Барыс Батура**.

За пяць гадоў холдынг пабудуе 10 заводаў у Мінскай вобласці. На іх будуць выраблядь такія тавары, якія пакуль нідзе не выраблююць у Беларусі.

Вілачныя пагрузчыкі, якімі цяпер займаюцца ў новым цэху, выходзяць на Беларусі толькі з “Амкадора”. Прадпрыемства хоча пашырыць спіс найменняў сваёй прадукцыі да ста. Усе гэтыя тавары ўпершыню будуць выходзіць з беларускага завода.

Да 2015 года “Амкадор-Унікаб” адкрые яшчэ некалькі цэхаў. Сёлета запланаванае будаўніцтва зборачнага і малярнага, склада гатовай прадукцыі. Акрамя пагрузчыкаў, завод пачне выпускаць аўтагрэйдары – спецыяльныя машыны для дарожна-рамонтных работ.

Падрабязней пра механазагатоўчы цэх можна прачытаць у №2 ці на сайце rh.by.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Цыгарэты правозілі праз мяжу ў газавых балонах

**АСТРАВЕЦ. АШМЯНЫ. На мяжы з Літвой на Астравеччыне ў пункце пропуску "Катлоўка" пры даглядзе аўтамабіля "Аўдзі" знайшлі і забралі 700 пачкаў беларускіх цыгарэт. Падобны выпадак адбыўся і ў Ашмянах.**

У першым выпадку цыгарэты спрабаваў правезці 22-гадовы літовец, які ехаў з Беларусі ў Літву.

Папярэдняя сума іх ацэнкі – 2 мільёны 730 тысяч рублёў, аўтамабіля – 50 мільёнаў рублёў.

І цыгарэты, і аўтамабіль супрацоўнікі Ашмянскай мытні, якія працавалі разам з Астравецкім памежным нарадам, канфіскавалі ў кіроўцы да рашэння суда.

Падобнае затрыманне адбылося і ў пункце пропуску "Каменны лог" на Ашмяншчыне. Калі памежны нарад даглядаў легкавы аўтамабіль "Фольксваген", цыгарэты знайшлі не толькі ў газавых балонах, але і ў парогах машыны, і пад заднім сядзеннем.

Кіраваў аўтамабілем 36-гадовы літовец, які таксама ехаў з Беларусі ў Літву.

Папярэдняя сума ацэнкі аўтамабіля і цыгарэт устанаўліваецца.

Аўтамабіль пакуль пакінулі на Ашмянскай мытні.

Праводзіцца разбіральніцтва.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**

НАШЫ ГРОШЫ

## На помнік Купалу няма грошай

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра гэта распавёў начальнік аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Рамановіч:**

– Праект помніка скульптара **Валяр'яна Янушкевіча** гатовы, прайшоў экспертызу. Але на яго рэалізацыю цяпер у бюджэце сродкаў няма. А неабходна адзін мільярд дзвесце тысяч рублёў.

А чаму б не арганізаваць збор сродкаў сярод маладзечанцаў?

На помнік Агінскаму, які цяпер стаіць каля музкаледжа, сродкі збіралі сярод гараджан, і гэту ідэю падтрымалі. А вось на Новы год прапанавалі маладзечанцам укласці грошы ў феерверкі – і атрымалі хвалю ўшчуванняў. Хаця, на мой погляд, гэта нармальная практыка, калі людзі плацяць за сваё задавальненне, за феерверкі.

Датычна помніка Купалу, то не ведаю, ці спрацуе такі варыянт. Вядома, гэта прыкра, што прайшоў і юбілей, 130 год песняру, а помнік не з'явіўся тут, на яго радзіме. Ініцыятывы па збору сродкаў пакуль таксама няма.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

АХОВА ПРЫРОДЫ

## У браканьераў канфіскавалі амаль 9 кіламетраў сетак

**МЯДЗЕЛ. У 2012 годзе супрацоўнікі Нацыянальнага парку “Нарачанскі” выявілі 420 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.**



Фота vmichurinske.ru.

Гэта на 85 больш, чым пазалетась. Асноўныя парушэнні — невыкананне правілаў аматарскага рыбалоўства, паведамілі ў Нацыянальным парку. За выяўленыя грубыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства праваахоўнымі органамі былі распачатыя 9 крымінальных спраў, у выніку 10 чалавек прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці, чацвёра з іх асуджаныя.

У браканьераў канфіскавалі 203 сеткі агульнай даўжынёй больш за 8700 метраў, 300 нератаў, 192 донныя вуды, 2 адзінкі паляўнічай агнястрэльнай зброі і іншае.

**Аддзел інфармацыі.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10.01 руб. | 17.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 650.00 | **8 650.00** |
| Еўра | 11 320.00 | **11 490.00** |
| Злоты | 2 749.22 | **2 776.04** |
| Літ | 3 277.38 | **3 324.30** |
| Расійскі рубель | 284.50 | **285.00** |
| Грыўня | 1 071.87 | **1 062.39** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8640/8740 | **8660/8740** |
| Еўра | 11200/11390 | **11400 /11620** |

## Цэны на рынку

| ПРАДУКТЫ | 9.01 | 16.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 117550 | **105700** |
| Сасіскі, 1 кг | 44950 | **44650** |
| Свініна, лапатка, 1кг | 55000 | **50000** |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 85900 | **88000** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 27900 | **25900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 22150 | **22700** |
| Селядзец, 1 кг | 21800 | **32900** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 93500 | **85000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10700 | **9000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 9950 | **8000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 10000 | **9000** |
| Алей | 16850 | **15500** |
| Маянэз, 200 г | 4300 | **4600** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 7900 | **7200** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 28000 | **30000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13380 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 3800 | **3500** |
| Капуста, 1 кг | 3300 | **3800** |
| Морква, 1 кг | 4000 | **3800** |
| Буракі, 1 кг | 2500 | **3800** |
| Лімоны, 1 кг | 18000 | **18500** |
| Апельсіны, 1 кг | 16000 | **16500** |
| Мандарыны, 1 кг | 15500 | **15500** |
| Памідоры, 1 кг | 30500 | **25000** |
| Агуркі, 1 кг | 32000 | **34500** |
| Перац, 1 кг | 37000 | **33000** |
| Вінаград, 1 кг | 22000 | **22500** |
| Бананы, 1 кг | 13500 | **13500** |
| Яблыкі, 1 кг | 8400 | **8500** |
| Грушы, 1 кг | 18900 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 8000 | **12000** |
| Масла, 1 кг | 60000 | **70000** |
| Тварог, 1 кг | 36000 | **36000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 17000 | **18000** |
| Сала, 1 кг | 58000 | **55000** |
| Бульба,1 кг | 2000 | **2500** |
| Мёд, 1 кг | 60000 | **60000** |

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Дапамогу дзецям-сіротам павышалі ў лістападзе

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Усім паднялі дапамогу па доглядзе за дзецьмі, а як жа з дзецьмі-сіротамі, якіх выхоўваюць у прыёмных сем'ях?**

**Бацькі, якія выхоўваюць прыёмных дзяцей у Вілейскім раёне.**

На пытанне адказвае намеснік начальніка па фінансава-эканамічнай і гаспадарчай дзейнасці аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Кацярына Трот**:

– Пакуль новай пастановы няма. Апошні раз дапамогу па доглядзе за дзецьмі-сіротамі, якіх выхоўваюць у прыёмных сем'ях, павышалі ў лістападзе. У законную сілу пастанова ўступіла 29 лістапада. Цяпер дапамога на дзяцей да шасці гадоў – 1 195 тысяч рублёў, ад шасці да 18 – 1 235 тысяч рублёў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная. **166**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591 |
| Ашмяны | - 01593 |
| Валожын | - 01772 |
| Вілейка | - 01771 |
| Маладзечна | - 0176 |
| Мядзел | - 01797 |
| Смаргонь | - 01592 |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Міцубісі Лансер, 1991 г.в., АКП, л/д, R15, эл/шкло, 1200 у.а., торг. Т. (8-029) 7764835.

• Опель Астра Н, 2007 г.в., 1,7 ТД, 164000 км, 6-МКПП, цёмна-сіні, універсал, з Германіі, 110 л.с, добры стан. Т. (8-029) 8625610.

• Опель Астра, 1994 г.в., 1,7 ТД, сіне зялёны металік, хэтчбэк, 2750 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5062370.*

• Опель Вектра Б, 1997 г.в., 1,7 ТД. Т. МТС (8-029) 5989996.

• Пежо 807, 2004 г.в., выдатны стан; дыскі БМВЕ39, 4 шт, 60 у.а. Т. (8-033) 6665868.*

• Рэно Велсаціс, 2002 г.в., 2,2 Д, усе опцыі, 7550 у.а ці абмен. Т. (8-029) 9820207.

• Рэно Меган, 2001 г.в., 1,6 бензін, 5-дзвярэй, літыя дыскі, хэтчбэк, шэра-зялёны, 6600 у.а. Т. (8-029) 5078439.*

• Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ на запчасткі, дыскі літыя R 15. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*

• Сітраэн Берлінга, 2001 г.в. на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*

• Таёта Карола Верса, 2003 г.в., мінівэн, рухавік Д 4Д, аб’ём 2,0, выдатны стан, цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 3160331.

• ФВ Пасат В3, 1988 г.в., 1,6 Б, чырвоны, універсал, 2750 у.а., торг. Т. (8-029) 6614757.

• ФВ Пасат, 1986 г.в., 1,8 Б, універсал, 850 у.а., дыскі R 14. Т. МТС (8-029) 7763394.*

• ФВ Пасат, 1989 г.в., універсал, 1,6 карбюратар. Ёсць невялікія нюансы па кузаве, зняты з уліку. Т. (8-025) 6066774.

• Форд Транзіт, 1994 г.в., 2,5 Д, грузавы, на поўным хаду, можна на запчасткі, 1500 у.а. Т. (8-029) 6575486.*

• Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, МОЛДЫНГІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-044) 7640814.*

• Колы, 4 шт., зіма, “Туд’ер”, 200 у.а. Т. (8-029) 2693511.*

• Дыскі літыя, б/у для а/м Опель Сінтра R16, 5х115 і дыяметр цэнтра адтуліны 71 мм. Т. (8-029) 3498670.

### КУПЛЮ

• А/м іншамарку да 2000 у.а., можна аварыйную, з праблемамі. Т. (8-029) 7088846.*

• А/м іншамарку ў любым стане. Т. (8-029) 6544347, (8-029) 5036715.*

• А/м легкавы, мінівэн, джып, у любым стане, хутка. Т. (8-044) 4727990.*

• А/м у любым стане, можна аварыйны ці бус. Т. (8-029) 6703397.*

• **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**

• А/м 1985-2012 г.г.в. **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6008152.*

• А/м, можна з праблемамі, разгледжу ўсе варыянты. Т. (8-044) 5401796.*

• Прычэп да легкавога аўтамабіля, можна без дакументаў. Т. (8-029) 3811905.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1,5-пакаёвая кватэра ў в. Яхімоўшчына, 39,8 м2. Т. (8-029) 2506379.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, часткова з мэбляй. Т. (8-01771) 39626.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/ 17,5/ 8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6758773.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.1 Мая, 3 паверх 4-павярховага цаглянага дома (хрушчоўка), агульная плошча 42,4. Т. (8-033) 3829775, (8-029) 7792181.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.Гагарына, 12. Т. (8-029) 3672399.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 44 кв.м. Т. МТС (8-029) 8593607.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5677661.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, цэнтр, новы добры рамонт, 50 кв.м, 46500 у.а. Т. (8-029) 9820207.

• 2-пакаёвая кватэра ў п.Беразінскае, 17 км ад Маладзечна, рамонт, зямельны участак, 19900 у.а. ці абмен. Т. (8-044) 7601222.

• 3-пакаёвая кватэра ў в.Любань, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 5602540, (8-029) 3668238.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 55 кв.м, вул.Горкага, 9, 26000 у.а. Т. (8-029) 1908536.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, 29500 у.а. Т. (8-029) 7604493.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Лебедзеўская, 17-65, 8 паверх, агульная плошча 66,5 кв.м, тэрмінова. Т. (8-0176) 706047, (8-029) 3095770.*

• 3-пакаёвая кватэра, секцыя непаліраваная, шафа двухстворкавая, без пасрэднікаў. Т. 747068, (8-029) 1234600.*

• Дом у Вілейцы, цэнтр, вада, газ. Т. (8-044) 7308603.*

• Паўдома ў Маладзечне, рамонт, камунікацыі, 19900 у.а. ці абмен. Т. (8-029) 5531823.

• Гараж у ГБК-1, Вілейка. Т. (8-029) 9218536.*

• Гараж у ГБК-12, склеп, яма. Т. (8-029) 6553816.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы. Т. (8-029) 7538694.

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Гараж у ГБК-21 (высокі) 6х4х3,4, склеп па перыметры h=2,8. Т. (8-033) 6338153.

• Кіёск, прыпынак ў Вілейцы, 1500 у.а. Т. (8-029) 5646180.

### КУПЛЮ

• Дом у вёсцы, магчыма пад знос, да 20-ці км ад Маладзечна, да 3000 у.а. Т. (8-029) 3811905.

• Участак для будаўніцтва дома, недабудаваны дом у Маладзечне або прыгарадзе. Т. (8-029) 6262756, 2505060.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру, 42 кв.м агульная плошча, з усімі выгодамі ў прыватным доме, цэнтр, на кватэру большай плошчы. Т. (8-01771) 77102, (8-029) 7518172.*

• 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 2-пакаёвую ў Вілейцы з даплатай альбо прадам. Т. (8-029) 5012601*

### НАЙМУ

• Кватэру для маладой дзяўчыны. Т. (8-029) 3635587.*

• 2-пакаёвую кватэру для сям'і ў Маладзечне, парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-029) 5492955.

• 1-2-пакаёвую кватэру для сям'і ў Маладзечне, Чысці, Красным, Заслаўі, тэрмінова, дорага. Т. (8-025) 9274388, (8-025) 9040155.

• 1-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін для маладой сям’і без дзяцей. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-033) 6694696.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям’і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы для маладой сям’і. Т. (8-029) 2792544.

• Кватэру ў Вілейцы для сям’і з 2-чалавек, тэрмінова. Т. (8-025) 6243636.

### ЗДАМ



• Гараж у ГБК-2 на працяглы тэрмін у Маладзечне. Т. (8-029) 5589493.

### ІНШАЕ

• **ВАЗЬМУ Ў АРЭНДУ ПАМЯШКАННЕ З ХАЛАДЗІЛЬНАЙ КАМЕРАЙ. Т. (8-029) 6432425. ***

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **“МАДЛЕН”** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• “**МІЛЭДЗІ**” – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье “Бярозка”). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **“НАДЗЕЯ” –** вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ “Модуль”, месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

• Музычнае абслугоўванне вяселляў і іншых урачыстасцей. Т. (8-029) 6188716.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

• МАЗ, самазвал 10 т; пясок, гравій, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 7588449 МТС, (8-029) 3385358 Вэлком.*

• Мерседэс 809, ГП, 5т, 30 куб.м, тэнт, санпашпарт, па РБ. ІП Лавар А.А. УНП 690388223. Т. (8-029) 1343052, (8-029) 5686412.*

• Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Адзенне для будучых мам, пастаянна. Рэчавы рынак (рад 13, месца 13). ІП Кучынская Н.Н. УНП 600378912.*

• **АЎТАЭЛЕКТРЫК**. Камп’ютарная дыягностыка. Устаноўка сігналізацыі, рамонт электраабсталявання. УНП 690383566. ІП Бандарэнка А.К. Т. (8-029) 5717325.*

• **БУДАЎНІЧЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці (унутраныя, вонкавыя), а таксама выкананне **МАНАЛІТНЫХ РАБОТ** (лесвіцы, ганак, падмурак, перакрыцце). ІП Клінцэвіч У.В. УНП 591801143. Т. (8-029) 3337177.*

• Вывезем вашу драўніну з лесасекі. СГ “Садок”. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307, Вэлком (8-029) 1575122.*

• Выраб электрашафы па індывідуальных заказах. Рамонт, мантаж, наладка. ІП Харлановіч В.Л. УНП 691501978. Т. (8-029) 1222116.*

• **ГУКАВОЕ І СВЕТЛАВОЕ СУПРАВАДЖЭННЕ ВАШАГА МЕРАПРЫЕМСТВА, ШОУ МЫЛЬНЫХ БУРБАЛАК, ПРАВЯДЗЕННЕ СВЯТАЎ**, упрыгожванне памяшканняў шарамі, букеты з шароў. ІП Озер О.А. УНП 691403791. Т. (8-029) 7692174, (8-033) 6525330.*

• Дах, уцяпленне, аддзелка ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок Хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9497847, (8-029) 8910834.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741, (8-029) 7068002, з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа.*

• Насціланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, АТЛАНТ, ARDO, CANDY, WHIRLPOOL, ZANUSSI, ELEKTROLUX і інш. ІП Аксёнаў В.Р. УНП 590339676. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 3760789.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*

• **РЫТУАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ**. Паслугі катафалка. Капанне магіл. Рытуальны ліфт. ІП Паплаўскі Я.Л. УНП 691399203. Т. (8-029) 7728328, (8-029) 1728328.*

• **СЕТКА РАБІЦА** (гатовая і пад заказ, з матэрыялу заказчыка). ІП Сарокка. УНП 600066115. Т. (8-029) 3271119, (8-0176) 771119.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі) і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Канановіч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

• **ЭЛЕКТРАМАНТАЖНЫЯ** работы, штрабленне з пыласосам, гарантыйнае абслугоўванне. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. www.electroteam.by. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **ВАГОНКА (ХВОЯ), 1,2 ГАТУНКУ, ТАННА, ПЛІНТУС, НАЛІЧНІК.** ІП Бондар А.А. УНП 691504724. **Т. (8-029) 6583120**.*

• Еўравагонка (лісцёвая, сасновая), піламатэрыялы. Т. (8-029) 6954737.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бетонамяшалка, воданагравальнік, паветранагравальнік, помпа 14м3/ч, камень. Т. (8-029) 2599940.*

• Прадам зварачны апарат паўаўтамат Гефест. Т. (8-029) 6237550.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АНТЗНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*









### УДЗЯЧНАСЦЬ

*Выказваю падзяку работнікам гасразліковай стаматалагічнай паліклінікі – Шэка А.А., Матусевіч Т.В., Шыманюк Г.І. за прафесіяналізм, абачлівае і ўважлівае стаўленне да пацыентаў. Жадаю ўсяму калектыву поспехаў у працы.*

**Галіна М.**

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

**• АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР»- СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

**• АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

**• АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

**• АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

**• АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**• АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Акардэон "Баркарола", 450 у.а., святломузычны прыбор, 50 у.а. Т. МТС 5567016, Вэлком 3897016.*

**МЭБЛЯ**

• Мяккі куток (канапа вуглавая), б/у, 2,5 млн.руб. Т. (8-01771) 53260, (8-029) 2713871.

• Канапа, ложак, мяккі куток, усё б/у, добры стан, Маладзечна. Т. (8-029) 8534028.

• Прадаецца шафа 3-створкавая, б/у. Т. (8-033) 6607675.

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Карова першацёлка, чорна-пярэстая, доіцца. Т. (8-029) 5568174.

• Парасяты в'етнамскія, Маладзечна. Т. (8-029) 6267992.

• Свінкі в'етнамскай пароды 8-месячныя, пакрытыя, Вілейка. Т. (8-029) 8-029) 1720673.

• Карова высакаўдойная, 8 год, ацёл у сакавіку. Т. (8-01592) 62359, (8-029) 9670327.

• Конь рабочы, Вілейскі р-н, в.Даўгінава. Т. (8-01771) 64312, (8-029) 9370160.*

• Конь. Т. (8-0176) 755786.*

• Куры-нясушкі яечных парод. Т. Вэлком (8-029) 6372825.*

• Парасяты в'етнамскай пароды. Т. (8-029) 7769283.*

• Свінні. Т. (8-029) 8766740, (8-033) 6039756.

• Трусы бельгійскі волат, маладняк, мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.*

**ІНШАЕ**

• Вокны, шклопакеты, дрэва фірмы "Забудова", нестандартныя, 185-113, 4 шт., 185-143, 1 шт. Т. (8-029) 8743873, (8-0176) 757346.*

• Жалезны з элементамі мастацкага кавання дзіцячы ложак-калыска, ліхтары вулічныя. Т. (8-029) 2506379, (8-0176) 721567.*

• Лыжы "Целяханы" п/пластык. Памер 170, 180, 190, 200 см. Кошт 250 тыс.руб. Т. (8-029) 6320317, (8-029) 2649460.*

• Малако дамашняе па Вілейцы, дастаўка. Т. (8-029) 2725536.

• Пеленг для праверкі грошай, касавы апарат, прылаўкі гандлёвыя. Т. (8-029) 5501920.*

• Сенаразбівалка навясная. Т. (8-029) 2725536.

• Сукенка вясельная, 1 раз б/у, вельмі прыгожая, колер шампань, памер 46-48. Т. Вэлком (8-044) 7283621.*

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• DDR 1, 1 GB, Samsung або Нуніх. Т. (8-029) 6550799, slabada @tut.by.*

**Музінструменты**

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

• Каня, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дарага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

**• АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

**• АНТЫКВАРНЫ МАГАЗІН. ПАКУПКА, ПРАДАЖА, КАМІСІЯ СТАРАДАЎНІХ РЭЧАЎ:** манеты, гадзіннікі, медалі, мэбля, карціны, самавар, значкі, статуэткі, сцягі і шмат іншага, магчымы выезд. Г.Маладзечна, вул.Б.Хмяльніцкага, 6, каля харчовага рынку. ЧТУП "Эмілія Трэйд". УНП 691402887. Т. (8-029) 5744744, 702247.*

**• СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• Балон кіслародны вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

СВЯТА

## У Мядзеле адзначылі юбілей вобласці

**МЯДЗЕЛ. У аўторак, 15 студзеня, у гарадскім Доме культуры прайшло ўрачыстае мерапрыемства, прысвечанае 75-годдзю з дня ўтварэння Мінскай вобласці.**

З гэтай падзеяй мядзяльчан павіншавалі старшыня райвыканкама **Ілья Шацько**, прадстаўнікі ветэранаў (**Міхаіл Гардон**) і моладзі (**Галіна Красоўская**).

Са сцэны гучаў расказ пра гісторыю вобласці. На вялікім экране дэманстраваліся прысвечаныя гэтай тэме здымкі.

У канцэртнай частцы бралі ўдзел ансамбль народнай песні "Скарбніца", клуб аматараў песні «Верасень», асобныя салісты. Завяршыў канцэрт гімнам Міншчыны народны вакальны ансамбль «Натхненне».

У фае Дома культуры дэманстравалася выстава, прысвечаная гісторыі раёна і вобласці, знакамітым людзям Мядзельшчыны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЫСТАВА

## У Вілейцы пакажуць арыгамі

**ВІЛЕЙКА. З 22 студзеня ў зале выстаў імя Нікадзіма Сілівановіча можна будзе пабачыць работы, выкананыя з паперы ў тэхніцы арыгамі.**

Тут пачне працаваць выстава "Арыгамі Omnibus" (Арыгамі для ўсіх). Будуць прадстаўленыя работы трох аўтараў з Вілейкі і Мінска. У краязнаўчым музеі адзначылі, што выстава будзе цікавая як для дзяцей, так і для дарослых.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СПОРТ

## Спаборніцтвы

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманды Маладзечанскага раёна прынялі ўдзел у Кубку Мінскай вобласці па лёгкай атлетыцы, а таксама ў адкрытым чэмпіянаце і першынстве Мінскай вобласці па лёгкаатлетычным шматбор'і.**

Спаборніцтвы праходзілі ад 10 да 11 студзеня ў горадзе Мінску.

У Кубку Мінскай вобласці каманда Маладзечанскага раёна заняла 2-е месца з вынікам 106 ачкоў. А ў асабовым першынстве Кубка Мінскай вобласці па лёгкай атлетыцы першае месца занялі **Таццяна Гулецкая, Андрэй Астапенка і Павел Вышыдкевіч**. Трэнер – **Леанід Арцем'еў.**

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СПАРТЫЎНЫ АНОНС

### Міжнарожны турнір памяці Дзмітрыя Гвішыяні

**МАЛАДЗЕЧНА.** У спартыўна-забаўляльным цэнтры пройдзе міжнародны турнір па ўшу памяці Дзмітрыя Гвішыяні. Урачыстае адкрыццё спаборніцтваў адбудзецца 19 студзеня ў 12 гадзіне. Фінальныя гульні пройдуць 20 студзеня. Пачатак а 12 гадзіне.

### Пройдзе Рэспубліканскі дзень снегу

**МАЛАДЗЕЧНА.** На лыжным стадыёне ў Бярозавым Гаі 19 і 20 студзеня адбудзецца раённая лыжная эстафетная гонка.

Спаборніцтвы пройдуць сярод удзельнікаў Маладзечанскага раёна. У лыжнай эстафетнай гонцы прымуць удзел вучні школ, навучэнцы каледжаў і калектывы фізічнай культуры.

Эстафетная гонка адбудзецца ў праграме зімовага спартыўнага свята "Беларуская лыжня-2013".

А таксама пройдзе першынство Маладзечанскага раёна па лыжных гонках, прысвечаных Рэспубліканскаму дню снегу.

### Баскетбол па-жаночаму

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 18 па 20 студзеня пройдзе першынство Мінскай вобласці па баскетболе сярод дзяўчат. Спаборніцтвы пройдуць у зале Маладзечанскага дзяржаўнага гандлёва-эканамічнага каледжа.

### Міні-футбол

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каманда Маладзечанскага раёна паўдзельнічае ў папярэдніх гульнях Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе. Яны пройдуць ад 18 да 20 студзеня ў Слуцку.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

НАШЫ – ЗА МЯЖОЙ

# Беларускі хлопчык пра сваё амерыканскае жыццё



Фота зроблены Настасся РОЎДАЙ.

Беларускі хлопчык Аляксей (другі) са сваімі амерыканскімі сябрамі.

**МАЛАДЗЕЧНА. У школу нельга прыносіць ні цацкі, ні тэлефон. Па вуліцы хадзіць з цацачнымі пісталетамі таксама забараняецца, бо гэта спараджае агрэсію. Пра жыццё школьніка ў Амерыцы расказвае першакласнік Лёша.**

Лёша жыве ў Філадэльфіі (штат Пенсільванія) з чатырох гадоў. Бацька ў яго беларус, а маці – напалову беларуска, а напалову афрыканка. У Беларусь хлопчык прыязджае да бабуляў на канікулы. Цяпер якраз зімовыя, і ён у Маладзечне ў бабулі па бацькавай лініі.

Ляцеў сюды больш за палову сутак. Ад Нью-Ёрка да Масквы дзесяць гадзін лёту і ад Масквы да Мінска – яшчэ 1 гадзіну і 20 хвілін. І хоць Лёша не любіць пералёты, усё роўна прылятае ў Беларусь:

– У мяне тут шмат сяброў, нават больш, чым у Амерыцы. Я, як адвучуся, наогул вярнуся сюды назаўсёды.

З сабой ён прывёз кніжкі па маляванні і англійскай мове. Нават прыхапіў рускамоўныя казкі, бо ўмее чытаць і пісаць на дзвюх мовах. Цяпер у падарунак ад рэдакцыі атрымаў беларускія казкі. Дарэчы, вельмі здзівіўся, пабачыўшы нашае "ў". Але паабяцаў навучыцца чытаць і па-беларуску.

Умее добра складаць і аднімаць у межах мільёна, яму няма праблем падлічыць, колькі будзе, напрыклад, калі 235 прыбавіць 148. Ведае табліцу множання.

Акрамя заняткаў у школе, ходзіць яшчэ два разы на тыдзень на танцы.

### Вывучаюць сацыяльныя даследаванні

Цяпер Алёша ходзіць у першы клас. Але ён ужо год адвучыўся ў нулявым класе. У Амерыцы дзеці ідуць у школу з пяці гадоў.

У яго ўжо ёсць свой школьны табель, дзе выстаўляюцца адзнакі па ўсіх прадметах. Уявіце, што акрамя адзнак у ім ёсць раздзел "Навыкі 21 стагоддзя/фарміраванне характару". Тут пазначаецца, ці мудра дзіця выкарыстоўвае час, ці добра працуе з іншымі дзецьмі, ці праяўляе павагу і спачуванне. І што мяне ўжо зусім здзівіла, ці ўмее пераадольваць праблемы, каб чамусьці навучыцца.

Асноўных прадметаў у Лёшы дзесяць: чытанне, пісанне, вуснае маўленне, матэматыка, навука, сацыяльныя даследаванні, фізічная культура, здароўе і выяўленчае мастацтва.

Яны ацэньваюцца па 100-бальнай сістэме. Але ў табель выстаўляюцца літары: A – 90-100 балаў, B – 80-89 балаў, C – 70-79, D – 65-69 балаў, F – 0-64 балаў.

Таксама ацэньваюцца паводзіны і намаганні вучня. Для гэтага існуюць тры адзнакі:

1. надта добрыя
2. здавальняючыя
3. патрабуюць паляпшэння

Дарэчы, у табелі пазначаецца, колькі заняткаў прапусціла дзіця, і розныя заўвагі ці пахвала настаўніка.

Задаюць амерыканскім першакласнікам і дамашнія заданні. І падручнікі яны носяць з сабой увесь час.

### Тым часам у беларускіх школах

Беларускія першакласнікі вывучаюць матэматыку, пісьмо, беларускую мову, чытанне, чалавек і свет, "Мая краіна – Беларусь". Ёсць і фізкультура. У некаторых школах можна выбіраць факультатывы.

Табеляў вучні не маюць, і адзнакі ім не выстаўляюцца. Бацькі могуць даведацца пра поспехі дзіцяці толькі ад яго самога ці калі прыйдуць у школу ды запытаюцца ў настаўніка.

Мабільнымі карыстацца ніхто не забараняе, а цацкі толькі вітаюцца, бо перапынкі паміж заняткамі 20 хвілін і дзецям трэба нечым займацца. Самі ўрокі доўжацца 35 хвілін. Іх усяго чатыры. Потым дзеці могуць заставацца ў групе прадоўжанага дня.

Не задаюць першакласнікам, у адрозненне ад амерыканскіх школьнікаў, заданні на дом. Не трэба ім і падручнікі насіць туды-сюды, яны застаюцца ў школе.

### На занятках дзеці гуляюць

Прычым разам з настаўнікам.

Калі я спытала ў Лёшы пра амерыканскія гульні, ён пачаў расказваць пра заняткі:

– На фізкультуры мы гуляем у "верталёт". Гэта калі настаўнік бярэ доўгую вяроўку, водзіць ёю вакол сябе і той, хто на яе наступіць, выбывае.

Беларускія дзеці звычайна завуць гэтую гульню "рыбкай". Прынцып той самы: вядучы водзіць скакалкай, а ўдзельнікі павінны праз яе пераскокваць.

– А на матэматыцы мы робім вось што: бяром пластмасавую талерку і дзесяць манет. Адну частку кладзём наверх, а другую – падніз. І трэба адгадаць, колькі там уніз гэтых манет.

Заняткі доўжацца да 15-і гадзін. У 12 – абед. Кожнае дзіця выбірае само, што будзе есці, бо ў меню каля пяці страў.

На заняткі і пасля школы па дамах дзяцей развозіць спецыяльны школьны аўтобус. Ён жоўтага колеру і адразу вылучаецца сярод іншага дарожнага транспарту. Праезд на ім бясплатны. Малыя дзеці заўсёды сядзяць на пярэдніх сядзеннях.

### Як выглядаюць класы

У класе, дзе вучыцца Лёша, стаяць чатыры вялікія сталы. За кожным з іх звычайна сядзіць восем вучняў. Атрымліваецца, што ў класе 32 чалавекі. Але, напрыклад, з Лёшынага раду тры чалавекі пераваліся ў іншыя школы. Таму засталося 29 дзяцей. Прыкладна палова дзяўчынак і палова хлопчыкаў.

У гэтай школе Лёша правучыцца да 6 класа. Гэта школа толькі для пачаткоўцаў. Яна нават, для бяспекі школьнікаў, абнесеная калючым дротам. З шостага класа ён пяройдзе ў іншую школу – сярэднюю, затым – старэйшую. А на гэты час у яго ёсць мэта:

– Я хачу, каб у мяне былі ўсе адзнакі A. Бо ў мяне цяпер ёсць яшчэ тры B.

**Настасся РОЎДА.**

ВЫСТАВА

# Дарогамі залатой восені прайшоў Васіль Белякоў

**МЯДЗЕЛ. Цягам студзеня ў Музеі народнай славы праходзіць выстава "Дарогамі залатой восені". На ёй прадстаўлена амаль 100 фотаработ пастаўчаніна Васіля Белякова.**

Якія ў яго любімыя мясціны на Мядзельшчыне, чаму здымае выключна на стужку – пра гэта ды іншае у інтэрв'ю з фотамастаком.

**– Адразу раскажыце пра сябе і сваё захапленне фатаграфіяй...**

– Займаюся фатаграфіяй з юнацтва, але не ў такіх аб'ёмах, як цяпер. Родам я з Усходняй Сібіры. Скончыў геалагічны факультэт Іркуцкага ўніверсітэта. А геолагі такі народ – трэба ўсё заўважаць, апісваць, фатаграфаваць. Служыў у войску, даслужыўся да падпалкоўніка. Пасля завяршэння службы прыехаў жыць у Паставы.

**– Колькі слоў пра гэту выставу...**

– Яна прысвечаная мінулай восені. Зрабіў 20 маршрутаў за 40 дзён: з іх 15 пешых і 5 – на ровары. Гэта адносна: з дому выехаў на ровары да бліжэйшага лесу, і цягаеш яго за сабой. Наматаў семсот кіламетраў, каб зрабіць гэтыя здымкі.

**– Мядзельшчына на выставе якімі месцамі прадстаўлена?**

– Блакітныя азёры, азёры Нарач, Мядзел ды іншыя. Нямала ёсць вясковых краявідаў, некалькі партрэтаў мядзельскіх людзей. Увогуле, на выставе палова фатаграфій з Мядзельшчыны.

**– Што трэба, каб з'яўляліся добрыя фатаграфіі?**

– Самае галоўнае, каб была назіральнасць. Цяпер ці не ў кожнай сям'і па некалькі фотаапаратаў. А важна, каб чалавек меў зоркае вока, бачыў, што хоча здымаць. Ёсць такое выслоўе "Здымае не фотакамера, а той, хто трымае яе ў руках". Таму трэба развіваць назіральнасць, тым больш, што Беларусь – краіна своеасаблівая. Тут няма такіх кантрастаў, як, скажам, на Далёкім Усходзе: горы, вулканы, моры. А ў нас раўніна. Таму трэба адшукаць такія месцы, якія б зацікавілі, узялі за душу звычайнага чалавека

**– Як гэта ўдаецца?**

– Вандрую пешшу, не на машыне. Адразу хаджу з Пастаў, усё вакол абышоў. Потым стаў выязджаць далей. Выбіраю маршрут па карце. Прыязджаю на аўтобусе, цэлы дзень вандрую, выходжу на іншы пункт. Зноўку саджуся ў аўтобус, вяртаюся дадому. Калі іду, спадзяюся, што нешта цікавае ўбачу. Але мне падабаецца ўсё – людзі, прырода... Магу нават у самым занятым лесе знайсці прыгажосць. І можна было б не хадзіць далёка, але мне трэба ісці, штосьці шукаць. Раней я шмат пераязджаў, вандраваў, фактычна паглядзеў увесь былы Савецкі Саюз. Але лічу, што ў нашай краіне, асабліва ў такім куточку, як Мядзельскі раён, надта шмат прыгожых месцаў.

**– Ваша любімая мясціна на Мядзельшчыне?**

– Самая любімая – палоска ад возера Нарач да возера Мядзел. Там ёсць высокія ўзгоркі, з якіх можна бачыць адразу некалькі азёр. І ландшафт такі зрэзаны. Увогуле, люблю фатаграфаваць ваду, любую: у балоце, рацэ, возеры, акіяне. Не вельмі люблю здымаць гарады, людзей: гэта ўсе бачаць. Хачу фатаграфаваць тое, што не бачаць тыя людзі, у якіх жыццё абмежаванае толькі работай і домам.

**– Ведаю, што здымаеце выключна на стужку...**

– Так. Таму што я люблю прыроду, і мне хочацца паказаць на здымку тое, што ўбачыў прыгожага. Хай гэта будзе не зусім дасканалая фатаграфія, але каб людзі паглядзелі на сапраўдную, не зменену фотошопам, прыгажосць. Мне кажуць: "Вось, размяшчаў бы здымкі ў Інтэрнэце". Мне гэта нецікава. Я люблю, каб мае фатаграфіі глядзелі ўжывую. Мне хочацца, каб з дапамогай гэтых здымкаў чалавек пакінуў у баку работу, справы, паглядзеў на нашы адметныя мясціны. Каб яму захацелася прайсціся пешшу, палюбавацца на краявіды. Калі ёсць прыгажосць, яе трэба бачыць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота зроблены Алесем ВЫСОЦКІМ.

Васіль Белякоў. Творы фотамастака.

ІЛЬЯНСКАЙ ШКОЛЕ – 150 ГАДОЎ

# Школа пасля вайны

*Працяг. Пачатак у №№43, 44, 45, 46, 47, 48, 49, 50, 51 у 2012 годзе, №2.*

**ВІЛЕЙКА. Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаця 27 кастрычніка споўнілася 150 гадоў.**

Адзін з будынкаў для школ быў той, стары, з пахіленымі сценамі на могілках, у якім дзяцей вучылі яшчэ пры палякох. Другі – кляштар каля царквы, а трэці будынак – гэта хата, яна знаходзілася на месцы цяперашняга Дома быту. Нейкі час дзяцей вучылі яшчэ і ў хаце Бічуна.

Тэрмінова пачалі дабудоўваць недабудаваны да вайны будынак школы – немцы пакінулі яго ў вельмі дрэнным стане. Работы тут вяліся актыўна, дапамагалі і бацькі, і настаўнікі разам з дзецьмі. Смецце, якое пакінулі ў школе фашысты, выносілі ў акопы і траншэі вакол школы, а потым засыпалі зямлёй.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАЙ.

Настаўнік Ільянскай школы Іван Канстанцінавіч Зайцаў са сваімі вучнямі.

## Школам не хапала ўсяго

Для вучобы недаставала ўсяго: падручнікаў, сшыткаў, чарніла, крэйды, не было мэблі. Раённы аддзел адукацыі падбіраў для школ настаўнікаў – патрэба ў іх была вялікая і іх, у асноўным, прысылалі з усходніх абласцей Беларусі і з Расіі, а калі была неабходнасць, то запрашалі на працу ў школу і мясцовых жыхароў, і не толькі дыпламаваных настаўнікаў.

Так, у пачатковую школу ў Залескія ў чэрвені 1944 года настаўнікам прызначылі Пятра Філіпавіча Яноўскага, а ў вёску Сачыўкі (Альковіцкі сельсавет) адправілі яго сына Сяргея. Восіпу Ігнатавічу Завадскаму з Ільі дазволілі працаваць настаўнікам пачатковых класаў у Ільянскай школе толькі пасля заканчэння следства над ім.

Паводле пісьмовых звестак, якія пакінуў завуч школы Іван Канстанцінавіч Зайцаў, у 1944-45 навучальным годзе настаўнікамі ў школе працавалі: Ларыса Дзмітрыеўна Альшэўская (пачатковыя класы), Ганна Аляксееўна Бяссонава (пачатковыя класы), Марыя Ільінічна Саракалетава, Пётр Львовіч Саракалетаў, Мікалай Восіпавіч Камінскі, Міхаіл Якаўлевіч Астравухаў (гісторыя), Анатоль Вячаслававіч Смірноў (фізічная культура), Вікторыя Ільінічна Бугаева (нямецкая мова). Школа тады была сямігадовая, сярэдняй яна стала ў 1949-1950 навучальным годзе.

Першым пасляваенным дырэктарам школы ў Ільі быў Міхаіл Якаўлевіч Астравухаў. У наступныя гады дырэктарствавалі: Роза Іванаўна Матросава, Іван Міронавіч Хораў, Мікалай Фёдаравіч Ляцягін, Ілья Савіч Касцючэнка, Валянціна Емяльянаўна Паўлава, Пётр Ігнатавіч Галецкі, Марыя Трафімаўна Крышкавец, Міхаіл Мікалаевіч Шыла, Іосіф Мікалаевіч Курац, Ігар Мікалаевіч Соніч.

З 1995 года дырэктарам школы з'яўляецца Ігар Аляксандравіч Юшко, 1963 года нараджэння. Дзесяць класаў Ільянскай школы ён закончыў у 1980 годзе.

## Іван Канстанцінавіч Зайцаў, настаўнік-краязнаўца

Іван Канстанцінавіч Зайцаў, 1922 года нараджэння, працуючы ў школе, ахвотна займаўся краязнаўствам, вёў запісы ў сшытках, якія цяпер зрабіліся каштоўнымі дакументамі.

У Ільянскай школе ён пачаў працаваць у 1946 годзе, прарабіў тут да 1984 года і выйшаў на пенсію. Але краязнаўчае захапленне не пакінуў, збіраў экспанаты і рабіў запісы. У гэты перыяд ён шмат чытаў, часта наведваў бібліятэкі і прасіў у знаёмых, каб прынеслі яму яшчэ кніжку ці часопіс. Іван Фларыянавіч Каляда з Лёпаўшчыны, з якім Іван Канстанцінавіч сябраваў, прыносіў такія кніжкі і часопісы са сваёй хатняй бібліятэчкі.

Асабліва карыстаўся ў Івана Канстанцінавіча папулярнасцю тоўсты часопіс "Куфэрак Віленшчыны", які выдаваўся ў Маладзечне **Міхасём Казлоўскім**. У часопісе мелася шмат краязнаўчага матэрыялу, чытачы заўсёды з нецярпеннем чакалі яго чарговы нумар і чыталі з захапленнем.

Іван Канстанцінавіч нарадзіўся ў вёсцы Вялікае Бушкава Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці. Закончыў сярэднюю школу ў вёсцы Сухары. На настаўніка вывучыўся на сямімесячных курсах пры педінстытуце ў Магілёве, і ў 1940 годзе быў накіраваны на працу на Вілейшчыну ў Вязынскую школу. Там працаваў толькі адзін год.

У Ільянскую школу патрапіў пасля вайны настаўнікам гісторыі і Канстытуцыі СССР. Яшчэ яму, 24-гадоваму хлопцу, адразу даверылі адказную справу: быць старшым піянерважатым. На гэтай пасадзе працаваў год: у 1947 годзе старшай піянерважатай прызначылі Леанілу Папковіч, якая закончыла 7 класаў ў Ільянскай школе і ўжо крыху папрацавала настаўніцай у пачатковых класах у Хаценчыцах.

Іван Канстанцінавіч адразу паступіў завочна вучыцца ў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут, а потым, у 1961 годзе, закончыў Мінскі педінстытут. У школе выкладаў гісторыю і геаграфію, працаваў інспектарам аддзела адукацыі Ільянскага раёна, двойчы быў завучам школы, меў вялікі досвед і вельмі любіў сваю працу, і яго любілі дзеці.

## Як вучылі дзяцей пасля вайны

Ён быў патрабавальным настаўнікам, але двоек не ставіў, а праводзіў дадатковыя заняткі з адстаючымі вучнямі. Іх пасля вайны ў класах было шмат. Класы былі перапоўненыя дзецьмі, у некаторых сядзелі па 43 вучні. І сярод іх было шмат дзяцей-пераросткаў і сірот, у якіх бацькоў забрала вайна. У сем'ях панавала страшэнная беднасць.

Нягледзячы на гэта, вучыць трэба было ўсіх дзяцей, угаворваючы і прымушаючы іх да гэтага. Самых слабых вучняў не пераводзілі ў наступны клас, а давалі ім па прадметах работу на лета. Некаторых пакідалі вучыцца на другі год. І такіх, як правіла, было ў кожным класе па некалькі чалавек.

Другагоднікцтва ў школах у першыя пасляваенныя гады і пазней было распаўсюджаная з'явай. Так не было, як цяпер, калі на другі год нікога не пакідаюць, усіх пераводзяць у наступны клас, цягнуць да дзявятага класа, каб выдаць пасведчанне аб заканчэнні базавай школы.

Гэта так задумана цяпер і робіцца: дабіваемся высокіх паказчыкаў у параўнанні з іншымі краінамі, і гэтаму рады ўсе. А тое, што некаторыя выпускнікі базавых школ, ды і сярэдніх таксама, не атрымоўваюць належных ведаў – гэта нікога ўжо не заклапочвае. Таму і сустракаюцца цяпер вучні, якія дрэнна чытаюць, пішуць, лічаць, заканчыўшы школу. Гэта вельмі дрэнна, але такое ёсць.

Раней патрабаванні ў гэтым плане былі больш строгія і дзякуючы гэтаму амаль усе вучні, хто меў прыродныя здольнасці, вучыліся старанна. На другі год пакідалі самых-самых гультаёў, дапамагчы якім ніяк не атрымоўвалася.

У тыя гады, калі школы не мелі неабходных умоў для навучання, калі не ўсе настаўнікі мелі дастатковую адукацыю, а ў класах сядзела па сорак і болей вучняў, і сярод іх значная колькасць пераросткаў, якія прайшлі нягоды ваеннага часу і не прывыклі да парадку і дысцыпліны, толькі здольныя і старанныя вучні вучыліся руплiва і атрымоўвалі добрыя веды.

Вось лічбы, якія даюць уяўленне аб узроўні адукацыі дзяцей у школах Вілейскага раёна. За 1946/1947 навучальны год з 1943 вучняў па выніках другой чвэрці не паспявалі 600 (36,5%). У горадзе Вілейка з 903 вучняў не паспявалі 290 (32%). У выніку за 1946/1947 навучальны год было 855 другагоднікаў, што склала 52%. У Вілейцы пасля вайны школы працавалі ў тры змены. Былі дзве сярэднія школы: №1, беларуская, і №2, руская. Школы былі платныя, за год за вучобу плацілі за 1 вучня у 8-10 класах па 1580 рублёў.

**Уладзімір КАЖАМЯКА.**

**Працяг будзе.**

**Аўтар просіць чытачоў дасылаць яму водгукі, заўвагі, успаміны з тым, каб іх можна было вакарыстаць у тэксце. Кантакты: 8(033) 327-95-17, 8(01771) 76-367.**

КОНКУРСЫ

# Найлепшую ёлку ў раёне сёлета не выбралі

**МАЛАДЗЕЧНА. Затое ў адной з іншых намінацый раённага конкурсу "Зімняя прыгажуня-2012" вызначылі адразу двух пераможцаў.**

– Ёлку раёна не выбралі, таму што дрэнна падрыхтаваліся, – тлумачыць начальнік аддзела ідэалогіі Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Яцухна**. – Сярод 15 сельвыканкамаў удзельнічалі толькі тры. Летась жа ёлкі прадстаўлялі ўсе.

Але астатнія тры намінацыі адбыліся.

1. Лепшымі ёлкамі на прадпрыемствах з колькасцю рабочых больш за 300 чалавек сталі ёлкі "Камунальніка" і холдынгу "Забудова".

2. Лепшай ёлкай на прадпрыемстве, дзе працуе менш за 300 чалавек, прызналі ёлку Маладзечанскага малочнага камбіната.

3. А самай прыгожай ёлкай сярод адукацыйных устаноў стала ёлка маладзечанскай сярэдняй школы №12.

– Дарэчы, сёлета вельмі складана было вызначыць пераможцу сярод адукацыйных устаноў, – дадае Таццяна Яцухна. – Яны прадставілі каля 80 ёлак, нашмат больш, чым летась. У гэтай намінацыі змагаліся і дашкольныя ўстановы, і школы, і сярэднія адукацыйныя навучальныя ўстановы.

Конкурс "Зімняя прыгажуня-2012" праходзіць другі год запар. Сёлета ў ім паўдзельнічала больш за 100 ёлак. Але дзевяць галоўных ёлак Маладзечна, у тым ліку тыя, што стаяць на галоўных плошчах, не ацэньваліся.

Лепшыя ёлкі вызначалі 14 членаў журы. Яны выстаўлялі адзнакі па пяцібальнай шкале. Ацэньваліся арыгінальнасць аўтарскай задумы, эстэтычны ўзровень афармлення, творчы падыход і святочная ілюмінацыя. Прычым глядзелі, як ёлка выглядае днём і як – уначы.

– Сёлета вельмі актыўна ўдзельнічалі дашкольныя ўстановы, – падводзіць вынік Таццяна Яцухна. – Таму магчыма, што ў наступным годзе для іх створым асобную намінацыю.

**Настасся РОЎДА.**



Фота artleo.com.

Для некаторых лепшая ёлка – жывая, вырашчаная на сваім падворку.

КОНКУРСЫ

# У падарунак – саву і дапаможнік да ЦТ

**ВІЛЕЙКА. У чацвер, 10 студзеня, у Даўгінаўскай школе выбралі вучня года-2012. Ім стала вучаніца 11"А" класа Таццяна Каляга.**

Крытэрыямі ацэнкі для ўдзельнікаў з'яўлялася высокая паспяховасць па прадметах, колькасць узнагарод за ўдзел у разнастайных алімпіядах і конкурсах, ступень актыўнасці ў грамадскім жыцці школы, прыкладныя паводзіны і захаванне дзелавога стылю адзення.

У падарунак Таццяна атрымала дапаможнік для падрыхтоўкі да ЦТ па беларускай мове, сувенір у выглядзе савы як сімвал мудрасці і навукі.

**Максім КАРОЛЬ, вучань 10"А" класа Даўгінаўскай СШ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Надзеі Мажуль патрабуецца дапамога на працяг лячэння

**ВІЛЕЙКА. Чатырохгадовай Надзеі Мажуль з Вілейкі патрабуюцца сродкі на чарговы курс рэабілітацыі ў спецыяльным санаторыі для дзетак з ДЦП у Чэхіі. Па дапамогу бацькі дзяўчынкі звярнуліся да нераўнадушных да чужога гора людзей.**



Фота забяспечана Любоўю МАЖУЛЬ.

Надзея Мажуль.

Надзейка – адзінае і любімае дзіця ў сям'і. У выніку складаных родаў дзяўчынка тыдзень знаходзілася паміж жыццём і смерцю. У дзевяць месяцаў ёй афармілі інваліднасць і паставілі дыягназ: дзіцячы цэрэбральны параліч, падвойная гіміплегія, затрымка псіхамоўнага развіцця, сімптаматычная эпілепсія, мікрацэфалія. Дзяўчынка не сядзіць, не гаворыць, не ходзіць, не гуляе з цацкамі.

– На працягу ўсяго жыцця дачушка спіць па 2-3 гадзіны за ноч, а часам не спіць суткамі, таму што яе мучаць боль і сутаргі, – расказвае мама дзяўчынкі Любоў. — Ёй неабходна пастаяннае лячэнне, інтэнсіўная фізічная рэабілітацыя. Дапамогі мясцовай медыцыны недастаткова, таму мы спрабуем усе магчымыя варыянты лячэння, у тым ліку за мяжой.

З дапамогай неабыякавых людзей, якія адгукнуліся на заклікі ў Інтэрнэце і газетныя матэрыялы, сям'і ўдалося сабраць сродкі на курс дэльфінатэрапіі ў Адэсе і на адзін курс рэабілітацыі ў спецыяльным санаторыі для дзетак з ДЦП у горадзе Цепліцэ ў Чэхіі.

– Вядома, кардынальна вылечыцца, каб устала і пайшла, – не атрымаецца, – расказвае пра вынікі рэабілітацыі ў Чэхіі Любоў Мажуль. – Але заўважаю на першы погляд можа маленькія, але для нас такія велізарныя плюсы. Надзейка стала сама засынаць, без закалыхвання (усе гады я калыхала яе на руках). Раней пальцы ў кулачку былі заціснутыя, цяпер можа расціснуць, усе пальчыкі можна разгледзець. Яшчэ дачушка стала больш упэўнена трымаць галаву, перастала крывіць ступні ног, стала больш уважлівая, больш цікавіцца навакольным светам, пачала глядзець мультфільмы. Падабаецца, калі я ёй чытаю кніжкі. Але каб дамагчыся значнага паляпшэння пры такім цяжкім дыягназе, трэба некалькі такіх курсаў.

Цяпер сям'я Мажуляў жыве ў Мінску, там больш магчымасці для лячэння і рэабілітацыі. Наведваюцца яны і ў Вілейку да бацькоў, праводзяць тут лета.

У сталіцы даводзіцца здымаць кватэру, а ў сям'і працуе толькі бацька Надзейкі, Любоў даглядае дзіця. Шмат грошай ідзе на лекі, якія пераважна прывозяцца з іншых краін.

За другі курс рэабілітацыі ў Чэхіі выстаўлены рахунак у 6890 еўра. Для сям'і гэта велізарныя грошы, а сродкі перавесці неабходна ўжо 7 сакавіка. Пакуль удалося сабраць 5400 еўра, засталося яшчэ паўтары тысячы.

За час змагання з хваробай дачушкі Любоў і Антон Мажулі ўпэўніліся, што сапраўды "свет не без добрых людзей".

– Людзі дапамагаюць матэрыяльна, дасылаюць дачушцы падарункі. Таксама падтрымліваюць маральна, падбадзёрваюць, даюць парады, да якіх добрых дактароў можна звярнуцца.

Бацькі дзяўчынкі шчыра дзякуюць кожнаму, хто падтрымлівае і дапамагае.

"Мы верым, што ёсць людзі, якія не пройдуць міма нашага гора, загадзя ўдзячныя ўсім, хто акажа нам дапамогу ў зборы сродкаў для лячэння нашай дачушкі, – піша Любоў. – Мы вельмі спадзяёмся, што яна абавязкова паправіцца, будзе радавацца і пазнаваць свет. Яна будзе ўсміхацца без пакутлівага болю, хадзіць па гэтай зямлі сваімі ножкамі і гаварыць свае першыя словы "мама і тата"...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Як дапамагчы Надзеі

Створаны сайт дапамогі Надзейцы http://podari-nadezdy.ucoz.ru, дзе можна больш даведацца пра жыццё дзяўчынкі, пазнаёміцца з медыцынскай ды іншай дакументацыяй.

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў філіяле 500 ААТ "АСБ Беларусбанк" *– г. Мінск, пр.Дзяржынскага, 69/1;* УНП 100603596; МФА 153001601:

**У бел. рублях:** 000005 (Транзітны рахунак 3819382101009 – указваецца пры пераводзе сродкаў юрасобамі)

**У еўра:** 9780000000004 (Транзітны рахунак 3819382100000 – указваецца пры пераводзе сродкаў юрасобамі)

**У рас. рублях:** 6430000000004 (Транзітны рахунак 3819382100000 – указваецца пры пераводзе сродкаў юрасобамі)

**У доларах ЗША:** 8400000000010 (Транзітны рахунак 3819382100000 – указваецца пры пераводзе сродкаў юрасобамі)

**Прызначэнне плацяжу:** на імя Мажуль Антона Міхайлавіча для лячэння дачкі Мажуль Надзеі Антонаўны

**WebMoney: беларускія рублі** - B401532052572, **еўра** - E229883711720, **рас. рублі** - R259618110431, **долары** ЗША-Z516649923258

**EasyPay:** 20882918

**Яндэкс-кашалёк:** 41001953041849

**PayPal:** gella59@mail.ru

Можна пакласці грошы і на баланс МТС на нумар **+375-29-553-32-72** (у далейшым мама Надзеі зможа перавесці іх на EasyPay або WebMoney праз сэрвіс iPay)

Паштовы перавод: *Беларусь, 222410, Мінская вобл., г. Вілейка, Стаханаўская, 90, Мажуль Любові Леанідаўне.*

Кантакты: Мажуль Любоў Леанідаўна: **+375-29-553-32-72**

Мажуль Антон Міхайлавіч: **+375-29-568-12-54.**

ШТО РАБІЦЬ?

# Без паперкі ты казюлька!

**МАЛАДЗЕЧНА. Зламаўся абцас, патрэскалася скура ці адклеілася падэшва ў толькі што набытым абутку.**

Што рабіць, бо прадаўцы замест вяртання грошай або замены прапануюць рамонт за кошт пакупніка.

### "Тыдзень не праходзяць – ідуць мяняць"

– Цяпер з абуткам вялікая праблема! На рынку ён у асноўным з замяняльніка скуры. А зімой вы самі бачыце якое надвор'е, бывае і мокра, і гразь. Таму абутак часта расклейваецца. Нават і тыдзень не праходзяць і ўжо ідуць мяняць, – кажа прадаўшчыца на рынку.

Такая ж праблема існуе і з пухавікамі. Недзе шво разыдзецца, асабліва на лакцях і плячах, – працягвае расказваць жанчына. – Таму я сама раю і нагадваю пакупнікам заўсёды набываць чэк, бо гэта гарантыя таго, што ваш тавар будзе заменены. Але на сваім досведзе магу сказаць, што пакупнікі дрэнна ведаюць свае правы, бо чэк просяць толькі адзінкі.

### Не выдаюць чэкі, бо не ўмеюць пісаць!

Як расказала прадаўшчыца на старым рынку, чэк некаторыя прадаўцы не выдаюць на падставе таго, што не ўмеюць пісаць. Здаецца, смешна гучыць, але на самой справе так.

Кожны вытворца мае права сам ўстанаўліваць тэрмін гарантыі, а можа, і ўвогуле не ўстанаўліваць. Купляючы абутак на рынках, трэба патрабаваць таварны чэк з указаннем гарантыі.

– Але наконт абутку сітуацыя лепшая. Прадаўцы добрасумленна кладуць у каробку з абуткам талон. На ім пазначаюць тэрмін прыдатнасці тавару. Гэта нашмат надзейней і ў выпадку чаго тавар абавязаны замяніць або вярнуць грошы, – кажа намеснік начальніка аддзела падаткаабкладання індывідуальных прадпрымальнікаў **Аляксандр Калтовіч.**

У абавязковым парадку прадавец павінен выдаць пакупніку плацежны дакумент, які пацвярджае аплату тавару. У кожнага прадаўца на рынку ёсць касавы апарат. Таму не трэба баяцца патрабаваць чэк.

Такім дакументам з'яўляецца касавы чэк, які змяшчае шэраг абавязковых рэквізітаў. На чэку абавязкова павінны быць назва прадаўца (суб'екта прадпрымальніцтва), парадкавы нумар чэка, дата і час пакупкі, назва тавару, агульная суму пакупкі і некаторае іншае.

Пакупнік мае права атрымаць чэк, калі кошт тавару складае тры базавыя велічыні – 300 тысяч рублёў. Ад 16 чэрвеня гэты кошт будзе паменшаны з трох да адной базавай велічыні.

### Пішыце заяву ў падатковую

– Калі прадавец не хоча вам выдаваць чэк, то смела пішыце заяву ў падатковую інспекцыю ці выклікайце падатковую падчас канфлікту з прадаўцом, – кажа Аляксандр.

Бо калі ў вас няма чэка, тут вам ўжо ніхто не дапаможа. Вам можа толькі пашанцаваць з прадаўцом, калі абутак не падыходзіць па памеру ці так здарылася, што ён розных памераў.

Добра, калі прадавец пойдзе вам на ўступкі. Бо яму таксама трэба пацвярджанне таго, што гэты тавар быў набыты менавіта ў яго.

### Купляючы абутак на рынку – патрабуйце таварны чэк!

Калі прадавец не выдае вам чэк сам – нагадайце, таму што без яго вы губляеце свае спажывецкія правы.

Калі ўсё ж такі здарылася, што тавар няякасны, з бракам ці хутка расклеіўся і ў вас ёсць чэк, то і перажываць не трэба.

У гэтым выпадку вам павінны прапанаваць раўнацэнны тавар альбо адрамантаваць у выпадку яго няспраўнасці, альбо вярнуць выплачаныя грошы.

І толькі пакупнікам вырашаць: зэканоміць хвіліну часу, не чакаючы касавага чэка, або патрабаваць пацвярджэння вашай пакупкі і атрымаць гарантыю абароны спажывецкіх правоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КАНЦЭРТ

# Выпускнік СШ №1 дае сольны канцэрт

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 18 студзеня, адбудзецца сольны канцэрт выпускніка школы №1 Аляксея Сёмухі. Такое мерапрыемства ў школе праводзіцца ўжо трэці раз.**

Аляксей Сёмуха – пераможца шматлікіх музычных конкурсаў.

Канцэрт "Трэба кахаць" адбудзецца ў сярэдній школе №1 імя Янкі Купалы. Пачатак у 14.00.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады

*Працяг. Пачатак ў №2.*

**МАЛАДЗЕЧНА. У Верхніх Талуях ля Маркава сціпла расце адно з самых старых дрэў Павілля – вяз, з вышыні якога адразу відаць Маладзечна, Вілейку і Смаргонь.**

Гэта некаранаваны чэмпіён сярод вязаў-патрыярхаў на прасторы СНД. Сярод вязаў, зарэгістраваных у нашых суседзяў – у Расіі, Украіне, Латвіі, Літве, – такога вялізнага няма. У Беларусі нагогул з зарэгістраваных і запаведных векавых дрэў, якія ахоўваюцца законам як помнікі прыроды, няма ніводнага вяза.

### Памятае, як стварылі Рэч Паспалітую

Уцалеў ён у жудасную вайну 1512-1522 гадоў, калі ў бітве тутэйшых рыцараў ВКЛ з наўгародскапскоўскімі ратнікамі на чале з князем М. Кісліцай Маркава спалілі датла. Не загінуў і ў час цяжкай Лівонскай вайны 1558-1583 гадоў.

Бачыў талуйскі вяз, як па рашэнні Гарадзейскага сойма 1567 года за Маркавам, недалёка ад Лебедзева, у Лешне, сабраліся з усіх валасцей 47 тысяч ратнікаў, каб ісці паходам на Маскву падчас Лівонскай вайны. Вяз з'яўляецца жывым сведкам перагавораў паміж прадстаўнікамі Польшчы і ВКЛ на конт заключэння дзяржаўнай уніі, бо перагаворы вяліся ў Маладзечне. Ліцвінам патрабаваўся саюзнік, каб адбіцца ад маскоўскага цара Івана Чацвертага Жахлівага.

Падпісанне уніі адбылося на Люблінскім сейме ў 1569 годзе, пасля чаго Вялікае Княства Літоўскае аб'ядналася з Каронай Польскай у адну федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую.

### Ад царквы да пісьменнасці

Вяз быў сведкам, як пабудавалі ў 1610 годзе першую царкву ў Маркаве. У апісанні царквы 1616 года значыцца драўляная міска, пазалочаная пакостам. Выраблены быў гэты посуд хутчэй за ўсё з... гэткага вяза. Найлепшы па якасці (амаль не патрэскалася, не ламалася) і прыгажосці тэкстуры, ды і найдаражэйшы (бо вельмі цяжка токару апрацоўваць драўніну, палена з вяза нават цяжка рассекчы) драўляны посуд выраблялі менавіта з вяза.

Лыжка з вяза каштавала ў два разы даражэй, чым з бярозы.

З праваслаўнай тая царква стала ўніяцкай, і, як вядома з пісьмовых крыніц, у 1784 годзе дзейнічалі ў царкве ў Маркаве брацтвы святога Разарыя. Была пры ўніяцкай царкве школа граматы – адна з самых першых у Беларусі, што знаходзіліся ў вёсках-мястэчках. Многія маркаўцы сталі пісьменнымі, пісалі шмат прашэнняў, заяў у суды, якія захаваліся ў архівах Вільні. Захаваліся нават дзве скаргі імператарам і нават ліст Леніну…

Вяз таксама не стаяў у баку ад педагагічнага працэсу навучання. Настаўнікі тых часоў ведалі, што найлепшыя розгі былі менавіта з маладога галля вяза.

### Бачыў шведскага караля і Напалеона

Выстаяў вяз і ў Паўночную вайну. У 1708 годзе 35-тысячнае шведскае войска на чале з каралём Карлам 12 рушыла на Маскву, але мусіла зімой кватараваць ля Ашмянаў, Смаргоні, Маркава, Лебедзева. Вязу толькі мелькам давялося бачыць караля Швецыі, калі той праязджаў па Віленскім тракце і спыніўся на адпачынак у Насілаве, а потым тры месяцы правёў у Радашкавічах.

Уцалеў вяз і ў вайну з Напалеонам. Спачатку пры наступленні ў напрамку Маладзечна праязджаў маршал Луі-Нікала Даву. А восенню 22 лістапада 1812 года вяз бачыў самога імператара Напалеона, які імкліва ўцякаў на карэце ў Беніцу пад агнём артылерыі генерала Ярмолава з палаючага Маладзечна, дзе разграмілі апошні корпус маршала Віктора. А да той Беніцы, дзе начаваў Напалеон, усяго чвэрць гадзіны на конях.

Галодныя французы не спалілі дрэва, каб пагрэцца ля вогнішча пры адступленні, хаця цеплатворнасць вяза адна з самых вялікіх, на ўзроўні вугалю. Магілы з астанкамі французаў знаходзілі ля Маркава, калі капалі шурфы для апор электрасетак у 60-х гадах 20 стагоддзя.

Бачыў вяз і фельдмаршала Міхаіла Кутузава. У яго была стаўка ў Маладзечне, бачыў і Дзяніса Давыдава, які вызваліў Маладзечна.

Уцалеў вяз і ў Вялікую Еўрапейскую (Мікалаеўскую) вайну. Лінія фронту праходзіла побач, больш за два гады фронт стаяў у раёне Беніцы, Белай, Смаргоні, дзе ішлі баі (пазіцыйная вайна).

На схіле суседняга пагорка быў абсталяваны шпіталь для параненых расійскіх салдат, а ў сямі кіламетрах, ніжэй, у Прудах, дзейнічаў буйны эвакуацыйны шпіталь. Не адно жыццё воінам уратавалі лекі, выраблены з кары, лісця, насення вяза, як і тутэйшым жыхарам. Першыя пісьмовыя звесткі пра лякарню ў Маркаве адносяцца да 1880 года. А рэцэпты лекаў з вязу былі вядомыя нават у сярэдняевеччы, імі карыстаюцца і цяпер, асабліва ў заходняй Еўропе.

Потым рэвалюцыя, вайна з Польшчай, паводле Рыжскага дагавора вяз апынуўся у Другой Рэчы Паспалітай. Сялянам пры Польшчы не давалі садзіць табаку, дык курцы мусілі збіраць сухое лісце з вязу і выкарыстоўваць у самакрутках замест махоркі.

Як казаў адзін курэц, гэта найлепшы з сурагатаў, які замяняе табак. Дым ні з моху, які курылі партызыны, ні з іншага сухога лісця не параўнаць па смаку з дымам вяза.

### Галандцы ў час вайны

Цудам захаваўся вяз і ў Вялікую Айчынную вайну. Самым небяспечным тады было тое, што ў гарнізоне Маркава, на конавіцкім пераездзе ў гарнізоне ў Заскавічах служылі галандцы. Менавіта галандцы збіралі па вёсках прадуктовы падатак. Для жыхароў яны былі, безумоўна, ворагі. Але не гэткія бязлітасныя, як немцы ці карныя батальёны з Літвы ці Латвіі.

І мясцовыя, і вяз дагэтуль памятаюць выпадак, як на конавіцкім пераездзе ў гадзіне хады ад вяза ўдаве, якая ехала на разбітых колах у Вільню, галандскія салдаты, распытаўшыся, чаму яна мае такую "дабітую" падводу, без грошай адрамантавалі і воз, і колы, і замянілі зношаную вупраж.

А суседа, які пазайздросціў "шчасцю" ўдавы і назаўтра ўпрог разбіты воз і благую вупраж з надзеяй пажабраваць і таксама што-небудзь адхапіць ад галандца, адпярылі бізунамі. Былі галандцы і ў ніжніх Талуях, а верхняя вёска была ля лесу, у сямі кіламетрах напрасткі, ад якой на гары Саколі Вугал у партызан дзейнічаў назіральны пункт.

Можа, таму, што бывалі галандцы ў Талуях толькі зрэдку, бо баяліся лесу, яны і не прынеслі з сабой на амуніцыі смяротнай "галандскай хваробы вязаў". Ад гэтага грыбковага захворвання ў Галандыі загінула ў 1919-1940 гадах 70% вязаў, а эпідэмія распаўсюдзілася па Еўропе і была праз марскія парты завезеная ў Амерыку. Цяпер гэтая смяротная для вязаў хвароба лютуе ў цэнтры Расіі.

### Вітаўтаў мост

У даліне, якая добра відаць з пагорку, дзе расце вяз, цякла тады рака Гадзея, прыток Ушы. Уша была глыбокая, зручная для перавозу солі і заморскага тавару гандлярамі і для сплаву плытоў, футра, хмелю аж да самага мора, да Крулеўца.

Якраз насупраць верхнеталуйскага вяза ля Маркава, недзе у дзвюх гадзінах хады пешшу па лініі Пруды і Турэц-Баяры, доўгі час дзейнічала паромная пераправа праз Ушу. А потым тут пабудавалі адзін з першых каменных (мураваных) мастоў – мост Вітаўта. Нашаму вязу і яго братам у Маркаўскай пушчы вельмі пашанцавала, бо, напрыклад, першы Лонданскі мост быў драўляны, пабудаваны менавіта з вязаў, бо ў вадзе вяз не гніе.

Дарэчы, Венецыя стаіць не толькі на лістоўніцы, але і на вязе. Тутэйшыя людзі таксама ведалі гэту ўласцівасць дрэва і найперш ужывалі яго для зрубаў калодзежаў, менавіта водазбіральнай часткі "зумпфа", што знаходзіцца пад вадой. Пашанцавала нашаму вязу і таму, што зусім недалёка, у паўдня хады, у шылавіцкай пушчы за Вяллёй пабудавалі знакаміты Вітаўтаў калодзеж.

Побач з Талуямі быў пабудаваны адзін з самых значных Вітаўтавых трактаў ВКЛ як з Вільні на Менск, так і з Крэва на Полацк. Яны перакрыжоўваліся у Маркаве: адзін бальшак ішоў з Вільні праз Гальшаны, Баруны, Крэва, Лоск, Беніцу, Паніззе, Маркаў, Пруды, Турэц –Баяры на Аляксееў перавоз праз Вяллю, на Вялейку, Мядзел, Паставы, Глыбокае, Полацак. А другі – з Менска праз Заслаўе, Радашкавічы, Краснае, Маладзечна, Лебедзева, Маркаў, Заскавічы, Смаргонь, Ашмяны ў Вільню.

### Як ездзілі на кірмаш у Вільню

Вільня была не так ужо і блізка – 78 вёрст, ці 100 кіламетраў. Кожны з тутэйшых бываў у Вільні ці па справах у земельным банку, ці на кірмашы, каб прадаць даражэй тыя ж клінковыя сыры або гуся. Білеты на цягнік каштавалі для простых сялян дарагавата, і, каб зэканоміць, ішлі дзе пешшу, а найбольш пад'язджалі на спадарожных падводах добрых людзей.

Фурманы тады былі добрымі да падарожных, ніякай платы акрамя баек не бралі. На дарогу шкада было траціць светлавы дзень. Звычайна мясцовыя людзі з Талуёў і Маркава выпраўляліся ў Вільню з вечара, нават у 22 гадзіны, праз Беніцу, Крэва. Начавалі некалькі гадзін у кагосьці са знаёмых у Барунах ці Гальшанах, а раніцай у 4 гадзіны зноў у дарогу, а ў 10 ужо ў Вільні прадавалі тыя сыры і збіраліся назад.

Зарабіўшы грошы, маглі з шыкам праехаць і па чыгунцы, але часцей выходзілі на шлях і падсядалі да некага на падводу. Парафіяне Маркаўскай царквы штогод рабілі пілігрымкі ў Вільню, каб пакланіцца праваслаўным віленскім святыням, найперш тром віленскім мучанікам.

Нават фурманшчыкі, паштавікі, гандляры, падарожныя стваралі пэўную небяспеку для вяза, бо менавіта самыя трывалыя аглоблі, дугі, драўляныя колы і палазы для саней былі з вязаў. Ратавала, што вяз стаяў трохі ў баку, у вярсце ад трактаў і заезнага двара ў Маркаве.

Дарэчы, самымі трывалымі дугамі нават з вяза лічыліся натуральна выгнутыя – для гэтага выбіралі маладую, яшчэ гнуткую галінку і спецыяльна акручвалі вакол тоўстага ствала ці паступова паміж іншых тоўстых галін, пакуль яна не стане неабходнай таўшчыні. Каб такім чынам вырасціць дугу для вупражы, трэба было чакаць сем, а то і восем гадоў.

Аб гэтым прыёме мне расказаў былы староста Маркаўскага сельсавета **Мікалай Ляшынскі**. Ён жа лічыць найлепшымі лыжкі з вязу, якія яму зрабіў 50 год таму бацька, бо яны самыя трывалыя. У гэтым яго падтрымліваюць і мясцовыя паляўнічыя.

**Заканчэнне будзе.**

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ.**




**Маладзечанец Пётр Цыгалка расказаў аўтару аб існаванні ўнікальнага вяза.**

**Даведка "РГ". Пакост** – прадукт перапрацоўкі алеяў, тлушчаў і арганічных рэчываў. Ужываецца для вырабу фарбаў. **Шурф** – вертыкальная штучная адтуліна, зробленая ў нетрах зямлі або на паверхні невялікай глыбіні для разведкі карысных выкапняў, вентыляцыі, водаадліву і іншых мэтаў. **Зумпф** – акумулюючая ёмістасць для збору вады ці гідрасумесі.

# Як паны Свентаржэцкія палявалі ў Сібіры

**МАЛАДЗЕЧНА. Наведаўшы жыхара вёскі Лебедзева Фёдара Ігнатавіча Семашкевіча, паляўнічага з больш як паўвекавым стажам, у чарговы раз я з задавальненнем слухаў цікавую гісторыю.**

Падзеі, аб якіх ён паведаміў, адбыліся напярэдадні Першай сусветнай вайны. Заўзятыя паляўнічыя, родныя браты Баляслаў і Караль Свентаржэцкія, вырашылі папаляваць на мядзведзя. Праўда, у той час, прыкладна 1912-1913 год, у тутэйшых лясах мядзведзь быў рэдкасцю.

## Як вырашылі паехаць у Сібір

У адной з расійскіх газет Баляслаў прачытаў аб'яву аб магчымасці папаляваць на мядзведзя ў Сібіры. Ён прапанаваў брату арганізаваць падарожжа ў далёкую Сібір.

Караль трохі падумаў і падтрымаў прапанову Баляслава. Было вырашана, што ў канцы лета разам з егерам Савіцкім яны адпраўляюцца на паляванне ў Сібір.

## Адносіны між братамі

Паны Свентаржэцкія жылі непадалёк, адзін меў маёнтак у Маліноўшчыне, другі – у Яхімоўшчыне. Як у аднаго, так і ў другога былі бровары. Гаспадаркі прыносілі нядрэнны прыбытак, і яны мелі шмат грошай.

У іх сем'ях таксама быў лад. Аднак трэба адзначыць, што ў жыцці браты Свентаржэцкія не вельмі добра ладзілі і рэдка наведвалі адзін аднаго. Часта спрэчкі ўзнікалі на пустым месцы з-за дробязяў, і гэта выклікала ўзаемную непрыязь.

Прадметам спрэчак было адно пытанне: хто лепшы гаспадар, а значыць, і першы ў агульнай справе? Такімі былі іх стасункі адносна ўсіх пытанняў гаспадарчага жыцця і быту. Калі ж справа датычылася палявання, то тут яны былі аднадумцамі і ўсе крыўды адыходзілі на другі план...

## Будуць грошы – знойдзем мядзведзяў

Дарога ў далёкую Сібір і паляванне занялі больш за месяц. Пакуль збіраліся і ехалі да месца прызначэння, туды прыйшла зіма. Сустрэўшы гасцей з Віленскай губерні, мясцовы егер ім заявіў:

– Не хвалюйцеся! Плаціце! Будуць грошы – будуць і мядзведзі!

Здзіўленыя Свентаржэцкія парыравалі егеру:

– Цяпер зіма, і мядзведзі спяць у бярлогах.

На заўвагу егер паўтарыў раней сказанае:

– Плаціце грошы, а мы іх разбудзім!

Дзелавы выгляд і ўпэўненасць егера выклікалі давер.

Пасля адпачынку гасцей, на трэці дзень знаходжання Свентаржэцкіх на месцы палявання, дасведчаны егер і яго памочнікі заўзята ўзяліся за справу. Тым не менш справа з самага пачатку не заладзілася, пайшла не па задуманым сцэнарыі. Спачатку, доўга блукаючы, шукалі патрэбнага мядзведзя. Потым няўдала яго будзілі…

Баляслаў, Караль і іх егер Савіцкі занялі "баявыя" пазіцыі і чакалі "наступлення" мядзведзя. Савіцкі, паводле ўспамінаў старажылаў, меў добрае вока і метка страляў "наўскідку", не цэлячыся. Знаходзячыся ў засадзе, Баляслаў і Караль былі побач. На іх погляд, такая звязка ўзмацняла шчыльнасць агню. Савіцкі засеў воддаль на пагорку.

## Мядзведзь на плячы

Тым часам разбуджаны мядзведзь прыйшоў з тылу, адкуль яго не чакалі, на пах людзей. Мядзведзь, напэўна, яшчэ не паспеў як трэба заснуць, добра арыентаваўся на мясцовасці і разумеў сваім мядзведжым розумам, хто вінаваты ў яго турботах.

Калі пан Караль заняў пазіцыю, яму прыходзілі ў галаву думкі, што паляванне горш за няволю, бо трэба часамі ў мароз або ў слоту быць у засадзе, сядзець у сцюжу па пояс у снезе, як раптоўна наступіла кульмінацыя іх палявання і яе развязка.

Яшчэ хвіліна – і раз'юшаны мядзведзь задраў бы іх абодвух. Баляслаў, адчуўшы са спіны шорах, не паспеў нават слова вымавіць, каб папярэдзіць брата аб небяспецы, не кажучы ўжо пра змену пазіцыі, як грымнуў стрэл егера Савіцкага.

Мядзведзь, усё роўна як яго ветліва папрасілі сесці побач з братамі, сеў назад, а потым заваліўся на бок да пляча пана Караля. Якое было ў яго адчуванне, маючы такога суседа, здагадацца не цяжка. Са слоў Баляслава, яны спачатку не паспелі нават да канца зразумець, што здарылася.

Атрымаўшы добры зарад настрою, узяўшы ў якасці трафея шкуру забітага мядзведзя, паляўнічыя заспяшаліся дадому. На прапанову егера: "Паспрабуем яшчэ раз! Сібір вялікая, мядзведзяў шмат!" – браты ветліва адмовіліся, спасылаючыся на вялікую колькасць дамашніх спраў і далёкую дарогу дадому. Добра заплаціўшы за абслугоўванне, пражыванне і начлег, Караль адправіўся ў Яхімоўшчыну, а Баляслаў і яго егер Савіцкі – у Маліноўшчыну.

Прыехаўшы ў свой маёнтак, Баляслаў у знак падзякі за выратаванае яму жыццё падарыў Савіцкаму вялікі кавалак зямлі. Нягледзячы на прыгоды ў Сібіры, паляванне для братоў Свентаржэцкіх заставалася любімай справай да канца іх жыцця.

**Запісаў Антон АПАНАСЕВІЧ, вёска Лебедзева.**

Фота забяспечана Фёдарам СЕМАШКЕВІЧАМ.

Аматары палявання Фёдар Семашкевіч (злева) разам са сваім бацькам Ігнатам.

## КАЛЯНДАР

**1150 гадоў** з часу стварэння (863) асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем славянскай азбукі.

***

**1030 гадоў** назад (983) у летапісах упершыню ўпамінаюцца яцьвягі.

***

**690 гадоў** назад (1323) горад Вільня (былы Крывы горад ці Крывічгорад) абвешчаны асноўнай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

***

**19 студзеня.** 495 гадоў з дня выхаду пражскага выдання Францішка Скарыны – "Премудрости божией книга", 1518 год. Уваходзіць у склад Старога запавету.

***

**20 студзеня.** 1960 год. У БССР ліквідаваная Маладзечанская вобласць.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Ларысы Алексютовіч (1913 – 2003), беларускай танцоўшчыцы, балетмайстра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**21 студзеня.** 195 гадоў з дня нараджэння Адама Кіркора (1818 – 1886), гісторыка, археолага, этнографа і грамадскага дзеяча. Член-карэспандэнт імператарскага археалагічнага таварыства (1856), член Расійскага геаграфічнага таварыства (1857) і Акадэміі ведаў у Кракаве (1873).

***

**1924 год.** Памёр Уладзімір Ленін, адзін з арганізатараў Кастрычніцкай рэвалюцыі, першы кіраўнік СССР.

***

**90 гадоў** з дня нараджэння Аркадзя (Абрама) Астрамецкага (1923 – 2002), беларускага цымбаліста, народнага артыста Беларусі.

***

**22 студзеня.** 150 гадоў таму назад (1863) пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

***

**23 студзеня.** 220 гадоў з дня прыняцця Пецярбургскай руска-прускай канвенцыі (1793), паводле якой быў ажыццёўлены другі падзел Рэчы Паспалітай Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Да Расійскай імперыі далучана правабярэжная Украіна і цэнтральная частка Беларусі да лініі Дынабург – Пінск з гарадамі Барысаў, Мінск, Нясвіж, Слуцк, Тураў, Пінск. Прусія і Аўстрыя захапілі спрадвечна славянскія землі (Гданьск, Торунь, амаль уся Вялікая Польшча, Кракаўскае ваяводства). Падзел быў зацверджаны Гродзенскім сеймам 1793 года.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ФУТБОЛ

# Гісторыя маладзечанскага футбола

## 1996-1999 гады. Паступовы спад

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля поспехаў 1994 і 1995 гадоў выступленне футбольнага клуба "Маладзечна" ў вышэйшай лізе чэмпіянату краіны пайшло на спад. Звязана гэта было, зразумела, з недахопам фінансавых сродкаў. Утрымліваць клуб на такім узроўні вельмі складана, і, як паказаў час, наогул немагчыма.**

На працягу 1996 і 1997 гадоў галоўным трэнерам каманды працаваў **Ігар Бялоў**, былы абаронца мінскага "Дынама", бронзавы прызёр чэмпіянату СССР. "Маладзечна" стала яго лепшым трэнерскім часам, бо, акрамя нашай каманды, зусім мала трэніраваў. Затое плённа дзейнічае ў якасці супрацоўніка федэрацыі футбола.

На працягу 1998 і 1999 гадоў сітуацыя ў клубе была зусім нестабільная, змяніліся пяць галоўных трэнераў. Сярод іх мясцовы спецыяліст **Уладзімір Галубко**, які двойчы закрываў амбразуру ў самыя складаныя моманты.

У 1996 годзе каманда заняла восьмае месца, маючы 11 перамог, 8 нічых, 11 паражэнняў, розніцу мячоў 42-33. Гэта вельмі добры вынік у параўнанні з тымі, якія будуць у наступных сезонах. Ён дасягнуты па інерцыі ад мінулых поспехаў, хаця некаторыя футбалісты пакінулі каманду. Затое вельмі добра сябе праявіў нападаючы **Аляксандр Вяжэвіч**, які забіў за гэты чэмпіянат 20 мячоў.

У 1997 годзе каманда заняла трынаццатае месца, маючы 7 перамог, 9 нічых, 14 паражэнняў, розніцу мячоў 28-44. З гэтага сезона і пачалася барацьба "за выжыванне". Дапамагло тое, што па ходу сезона склад папоўнілі некалькі дасведчаных футбалістаў. Дзякуючы перамогам у двух апошніх турах апярэдзілі канкурэнтаў з найдачлівага пятнаццатага месца толькі на два ачкі.

У 1998 годзе каманда заняла чатырнаццатае месца, маючы 4 перамогі, 4 нічые, 20 паражэнняў, розніцу мячоў 21-51. Каб выратавацца ад "вылету" з вышэйшай лігі, у чатырох апошніх турах здолелі набраць сем ачкоў, тады як асноўны канкурэнт, слонімскі "Камунальнік", – ніводнага. Заслуга ў гэтым поспеху належыць галоўнаму трэнеру **Леаніду Кучуку**, які папрацаваў усяго тры месяцы. Між іншым, у першых суверэнных чэмпіянатах ён сам гуляў за "Маладзечна", правёў каля шасцідзесяці матчаў.

У 1999 годзе каманда заняла апошняе, шаснаццатае месца, маючы 2 перамогі, 5 нічых, 23 паражэнні, розніцу мячоў 21-71. На той момант у Маладзечне ўсе проста стаміліся ад цяжкасцяў жыцця ў вышэйшай лізе. Гаварылі пра тое, што нашай камандзе лепш выступаць у першай лізе. Час паказаў – гэта было правільнае меркаванне.

Калі паспрабаваць скласці сімвалічную зборную тых чатырох сезонаў, то яе склад можа быць наступным. Варатар **Мікалай Абрамовіч,** абаронцы **Аляксандр Андросік, Генадзь Лясун, Сяргей Каўтуноўскі, Аляксандр Клімовіч,** паўабаронцы **Сяргей Кабельскі, Дзмітры Каўтовіч, Аляксей Крывіцкі, Сяргей Федаровіч,** нападаючыя **Сяргей Дзямідчык і Віталь Казяк.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота sport-xl.net.

Футбольны трэнер Леанід Кучук паспяхова працаваў з камандамі Украіны і Малдавіі. Сваю трэнерскую кар'еру пачынаў у Маладзечне ў 1998 годзе, калі выратаваў нашу каманду ад "вылету" з вышэйшай лігі.

### Кубкавыя поспехі

Абавязкова трэба ўспомніць выступленні нашай каманды ў розыгрышах Кубка Беларусі. На працягу ўсіх дзевяностых гадоў "Маладзечна" дэманстравала тут стабільна высокія вынікі. З 1992 года па 2000 каманда прыняла ўдзел у дзевяці розыгрышах. Двойчы даходзіла да паўфінала, пяць разоў спынялася ў чвэрцьфінале, і толькі два разы не пераадолела стадыю 1/8 фіналу. У гульнявы час 16 перамог і 9 паражэнняў.

У дзвюх сустрэчах справа даходзіла да прабівання пасляматчавых пенальці, дарэчы, са шчаслівымі зыходамі для маладзечанцаў. Адна з іх прайшла на сваім стадыёне. 1998 год, 23 верасня, 1/8 фіналу, сапернік – "Шахцёр" (Салігорск). Госці адкрылі лік на шостай хвіліне, але ўжо на 10-й нашы футбалісты аднавілі раўнавагу на табло. Той вечар атрымаўся надзвычай эмацыйным, балельшчыкі атрымалі сапраўдную асалоду ад падзей на полі. У пасляматчавых пенальці ніводная з камандаў не хацела саступаць. Вынік на карысць гаспадароў быў даволі рэдкі, ажно 8:7.



СПАРТАКІЯДЫ

## Самыя спартыўныя кіраўнікі – у Вязыні

**ВІЛЕЙКА. 12 студзеня на базе раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" і цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" прайшла спартакіяда кіруючых работнікаў.**

Пра спаборніцтвы "Рэгіянальнай газеце" паведаміў інструктар-метадыст фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. У спартакіядзе прынялі ўдзел сем камандаў: Вілейскага райвыканкама, аддзела культуры райвыканкама, Іжанскага, Ільянскага, Вязынскага, Асіпавіцкага і Любанскага сельсаветаў.

Яны спаборнічалі ў шасці відах спорту. Гэта камбінаваная эстафета, перацягванне каната, конкурс капітанаў, узніманне гіры, дартс, плаванне.

Найбольш азартнымі як для ўдзельнікаў, так і для гледачоў сталі камбінавая эстафета і перацягванне каната.

У камбінаванай эстафеце наймацнейшымі былі прадстаўнікі аддзела культуры. У перацягванні каната перамагла каманда Ільянскага сельсавета.



Фота забяспечана Аляксандрам ВАЙДАЙ.

Ідуць спаборніцтвы па ўзніманні гіры.

У конкурсе капітанаў трэба было выканаць штрафныя кідкі ў баскетбольнае кальцо. Найлепш з гэтым справіўся **Кірыл Шынкевіч** з Асіпавіцкага сельсавета.

У гіры (практыкаванне рывок) у камандным заліку першае месца за Ільянскім сельсаветам. Адпаведна яго прадстаўнік **Уладзімір Вашанко** перамог у асабовым заліку.

У дартсе ў камандным заліку першае і другое месцы падзялілі прадстаўнікі Вязынскага і Асіпавіцкага сельсаветаў. У асабовым заліку вызначыліся ў мужчын **Міхаіл Гарбацэвіч** з Вязынскага, а ў жанчын **Таццяна Козел** з Любанскага сельсаветаў. У эстафеце па плаванні перамаглі прадстаўнікі аддзела культуры.

Агульнакамандныя вынікі наступныя. 1-е месца – Вязынскі сельсавет, 2-е месца – аддзел культуры, 3-е месца – Ільянскі сельсавет.

Усе пераможцы і прызёры былі ўзнагароджаныя каштоўнымі прызамі і дыпломамі адпаведных ступеняў.

**Аддзел інфармацыі.**


ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**



Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## Чытайце праз тыдзень:

- **Сёлета – 150-я гадавіна паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Што прысвецяць гэтай даце ў рэгіёне?**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**20 нядзеля, 12.00– В.Мятальнікаў. "СПЯЧАЯ ПРЫГАЖУНЯ"** (казка-сон паводле Ш.Перо)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

**УВАГА! ДЗЕЦІ І ДАРОСЛЫЯ!**

**19 субота 17.00 – "БАНКЕТ"** (сентыментальная камедыя)
*Ніл Сайман*

**22 аўторак 19.00 – "ЛЮБОЎ ПА-ІТАЛЬЯНСКУ"** (камедыя па матывах п'есы Э.дэ Філіпа "Цыліндр")
*Эдуарда дэ Філіпа*

**23 серада 19.00 – "КАМЕДЫЯ"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча)
*Уладзімір Рудаў*

**25 пятніца 19.00 – "ЧАТЫРЫ НАВЕЛЫ ПРА КАХАННЕ"** С.Злотнікаў, Л.Петрушэўская, А.Слапоўскі, *В.Распуцін*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by.



**РЭПЕРТУАР кінатэатра "Радзіма"**

**17-24 СТУДЗЕНЯ**

Навагодняя камедыя **"З НОВЫМ ГОДАМ, МАМЫ!" ***, 2D
17.01 - у 21.00

Анімацыйная камедыя **"ТРЫ БАГАТЫРЫ: НА ДАЛЁКІХ БЕРЕГАХ»***, 3D
17.01 – у 17.30

Трылер **"ЗМЯРКАННЕ. САГА. СВІТАНАК: ЧАСТКА 2"** **, 2D
17-18, 21-24 студзеня – у 21.00
19-20 студзеня – у 16.30, 21.00

Навагоднія анімацыйныя прыгоды для ўсёй сям'і **"СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА"** 0
19-20 студзеня – у 14.30
18, 23-24 студзеня – у 17.00

Рэмейк усенароднай любімай камедыі **"ДЖЭНТЕЛЬМЕНЫ ЎДАЧЫ!"****
19-24.01 – в 19.00

0 – без узроставых абмежаванняў
* – дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў
** – дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў

Т. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -9 / -10 | | -14 / -12 | | -11 / -8 | | -14 / -10 | |
| | 739 | ↙ 5 | 737 | ↙ 2 | 729 | ↙ 2 | 730 | ↙ 2 |
| Вільня | -11 / -11 | | -13 / -11 | | -11 / -6 | | -9 / -7 | |
| | 750 | ↙ 5 | 747 | ← 3 | 739 | ↙ 2 | 739 | ↙ 5 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.19
Захад 17.27
Даўжыня дня 8.08

Усход 11.58
Захад 2.16
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- 18 студзеня. Завяршэнне Каляд, шчодрага тыдня. Трэцяя, галодная, вадапосная куцця, Вадзянка.
- Вадохрышча (19 студзеня) – апошняе каляднае свята. На Вадохрышча яснае і марознае надвор'е – да засушлівага лета. Хмарна і снежна – на добры ўраджай. Зорная ноч на Вадохрышча – будзе шмат ягад.

## ЗАКОНЫ МЭРФІ

* Даўжыня хвіліны залежыць ад таго, па які бок дзвярэй прыбіральні ты знаходзішся.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Ігара МАРОЗА.

**Скончаны баль, пагасла печ. Казённая мэбля – прэч.** (Пасля свята на хутары Вілляны).

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | 8 | | | 2 | | |
| | | 7 | 1 | 9 | | 3 | | |
| | | | | | 2 | | | 4 |
| | 3 | 6 | | 2 | | 1 | 9 | |
| | | | | | | | | |
| | 7 | 9 | | 8 | | 5 | 3 | |
| 1 | | | 7 | | | | | |
| | | 3 | | 1 | 6 | 8 | | |
| | | 2 | | | 5 | | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ГАРАСКОП (18-24 СТУДЗЕНЯ)

**Авен.** Аддаўшы належнае навагоднім святам, вам трэба як мага хутчэй уключыцца ў работу. Пастарайцеся пазбавіцца ад праблем, якія засталіся з мінулага года.

**Цялец.** Гэтыя дні тояць у сабе сюрпрызы рознай афарбоўкі. Не думайце, што вы можаце прадбачыць ход падзей. Проста будзьце асцярожныя.

**Блізняты.** Высветліце, чаго вам не хапае ва ўзаемаадносінах з блізкімі, дадайце эмоцый і шчырасці, часцей усміхайцеся. І настрой падымецца, і жыццё наладзіцца.

**Рак.** Вам спатрэбяцца інтуіцыя і цярпенне, каб данесці да партнёраў новыя ідэі. А каб адчуваць сябе камфортна, усё рабіце з прыцэлам на будучае.

**Леў.** Магчымы ўнікальныя сустрэчы і знаходкі.

**Дзева.** Вы будзеце нервавацца і наробіце нямала памылак. Імгненная рэакцыя на ўсё цяпер становіцца праблемай: рэагуеце вы хутка, але няправільна, а потым трэба ж выпраўляць памылкі.

**Шалі.** Паклапацьцеся пра камфортныя адносіны ў сям'і, каб мець падтрымку ў цяжкі момант.

**Скарпіён.** З'явіцца магчымасць зрабіць цяжкі выбар, не памыліцеся. Паспрабуйце выправіць старыя пралікі, агрэхі, не падманвайце блізкіх нават у дробязях.

**Стралец.** Час не падыходзіць для авантур, але рашучыя дзеянні могуць прынесці вынікі, на якія вы і не разлічвалі. Не крыўдзіце блізкіх, пазбягайце крытыкі.

**Казярог.** З'явяцца новыя ідэі ў дачыненні да няскончаных спраў. Скарыстайцеся імі. Бо магчыма, вы прыдумалі нешта асаблівае. Вынік будзе пазітыўным, будзьце ўпэўнены.

**Вадалей.** Калі ў вас ёсць якая-небудзь запаветная мара, то, хутчэй за ўсё, зоркі наблізяць вас да яе ажыццяўлення. Планеты самі паклапоцяцца аб тым, каб вы апынуліся ў патрэбны час у патрэбным месцы.

**Рыбы.** Старайцеся пазбягаць адкрытасці з сябрамі адносна свайго ўласнага жыцця і планаў. Настрой будзе рамантычны. Фліртуйце, але нічога не абяцайце ні сабе, ні іншым.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6550 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная. № 3 (925) 18.01.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г.
Зак. 29. Падпісана ў друк у 10.00 17.01.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.